

№ 1 (162)
Студзень 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:



## На тым тыдні...

● У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь:
– 22 снежня 2006 года адкрылася выстаўка мастакоў Папляўскіх;
– 27 снежня 2006 года адбыўся вечар памяці былога дырэктара гэтага музея, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Юрыя Аляксандравіча Карачуна. Адкрыта выстаўка яго твораў.

● Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры 27 снежня 2006 года арганізаваў вечар памяці, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння народнай артысткі Лілії Давідовіч.

## Гісторыя праз дакументы і каханне

Творчасць вымагае адзіноты. Твор, які пасля будуць чытаць многія і многія, стварае адзін. Але не бывае правілаў без выняткаў. Ёсць творы, якім не стае аднаго творцы. Прагнучы нарадзіцца, яны патрабуюць стварэння «творчых шлюбаў». У такім «шлюбе» гісторык Віталь Скалабан і пісьменніца Людміла Рублеўская напісалі гістарычную драму «Людвіка і Фабіян». Прэзентацыя яе адбылася ў «Беларускай хатцы». І гэта невыпадкова, бо менавіта ў "Беларускай хатцы" сустракаліся дзеячы беларускага нацыянальнага руху Людвіка Сівіцкая (Зоська Верас) і Фабіян Шантыр.

П'еса-дакумент – гэтак азначалі жанр твора тыя, хто яго прачытаў, пагаджаліся і аўтары. Віталь Скалабан распавёў пра велізарную працу ў архівах па зборы невядомых дагэтуль дакументаў, якія леглі ў аснову п'есы. Але ж у гісторыю паглыбляешся яшчэ болей, калі яна падсвечваецца высокім пачуццём кахання. Можа таму і студэнты 5 курса кафедры тэатральнай творчасці Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, якія ажыццявілі мастацкае чытанне драмы, выбралі менавіта лінію ўзаемадачыненняў галоўных герояў. Марына Дзямідчык (Людвіка) і Сяргей Здаранкоў (Фабіян) уразілі слухачоў сваім «выкапальніцкім шлюбам». У «лясную хатку» Зоські Верас усіх перанёс фалькларыст і літаратуразнавец Арсень Ліс – ён адным з першых пабываў у ёй, адным з першых далучыўся да ўспамінаў пра той нялёгкі перыяд у гісторыі. Пра багацце нашых архіваў распавёў старшыня Камітэта па архівах і справаводстве пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Адамушка. Ён упэўнены, што на аснове дакументаў узнікне яшчэ не адзін арыгінальны твор. А пакуль застаецца чакаць, што нашыя тэатры не прапусцяць магчымасці адчуць гісторыю праз дакументы і каханне.

*Аксана СПРЫНЧАН*



*На здымках: Л. Рублеўская і В. Скалабан*




*Уладзімір МАРХЕЛЬ*

## Навагодні напамінак

*Праходзіць год.*
*Ягоны ход*
*Ёсць нейкі бег,*
*І не на смех.*
*Бо ад варот,*
*Наадварот –*
*Ад спраў да ўцех*
*На зло, на грэх,*
*Бег наўздагон,*
*Бег пад адхон*
*Ці, можа, увысь –*
*Абы кудысь.*

*Бег ад варот*
*Не на зварот.*

## З дзіцячага фальклору

*Калядачкі далёка,*
*Кілбасачкі высока.*
*Калядачкі*
*прыблізіліся –*
*Кілбасачкі панізіліся.*

*Я дзяўчынка*
*маленькая,*
*У мяне сукеначка*
*рабенькая.*
*Туфлікі карковенькія,*
*Будзьце з калядкамі*
*здаровенькія!*

Царкоўнае краязнаўства

## Шлях да суцяшэння душы

Пасля таго, як быў закрыты ў горадзе Слуцку Свята-Троіцкі манастыр і яго рыхтавалі да разбурэння (гэта былі 1920-я гады), на званіцы гэтага манастыра застаўся ўсё ж жыць адзін манах, айцец Макарый. Ён даў абет харчавацца адным сухім хлебам і халоднай вадою з ракі Случ, якая працякала побач з манастыром, – і сумленна выконваў яго. Зімой ён моцна застудзіўся, начуючы на званіцы, і захварэў. Даведаўся пра гэта епіскап Слуцкі Мікалай Шамаціла, арыштаваны пазней, у 1933 годзе, па ілжывым абвінавачанні ў прыналежнасці да контррэвалюцыйнай змовы.

У той час дактары ў Слуцку ездзілі да хворых, карыстаючыся паслугамі возчыкаў. Па просьбе епіскапа доктар прывёз хворага манаха да архіерэя, таму што айцец Макарый адмовіўся легчы ў бальніцу, каб не парушыць свой абет у харчаванні. Архіерэй паклаў хворага ў старым драўляным саборы, які знаходзіўся на Сабornай Горцы побач са Свята-Мікалаеўскім саборам, дзе айцец у хуткім часе паправіўся. Памёр айцец Макарый у 1928 годзе і быў пахаваны каля Варварынскай царквы на гарадскіх могілках на Могілкавай вуліцы (цяпер вул. 14 партызан).

Пасля таго, як летам 1956 года згарэла Варварынская царква, была пашкоджана і драўляная агароджа і крыж на магіле айца Макарыя. Але вернікі, людзі не пакінулі гэтую магілу, замовілі жалезную агароджу, новы жалезны крыж паставілі на магіле і мармуровую дошку з надпісам: «Отец Макарий. Умер – 4/XII – 1928 г.» Праваслаўны люд увесь час наведвае яго магілу. Тут ускладаюць кветкі, вянкі, прыбіраюць, а – галоўнае – моляцца.

У 2004 годзе протаіерэй айцец Мікалай Коржыч, настаяцель слуцкай Казьма-Дзям'янаўскай царквы разам з прыхаджанамі храма ўстанавілі новы чорны мармуровы крыж з надпісам: «Иеромонах о. Макарий. Умер 4/XII – 1928 г.»

Да гэтага часу многія людзі лічаць, што калі з глыбокай верай памаліцца на гэтай магіле і папрасіць дапамогі ў айца Макарыя аб суцяшэнні ў сваім горы, то становіцца лягчэй у тузе, бо без веры ў Бога і святых жыць нельга.

*Ларыса ЛУК'ЯНЦАВА, г. Слуцк*



*Свята-Троіцкі манастыр (з малюнка Н. Орды)*





## Ліст у рэдакцыю

Паважаная рэдакцыя! У № 43 (156) «Краязнаўчай газеты» прачытаў ваш зварот да краязнаўцаў. Я падпісчык выдання з 2004 года. Вы пішаце, што ў апошнім квартале 2006 года зменшылася колькасць падпісчыкаў. Газета не здолела выйсці на самаакупнасць.

Калі б на вашу газету падпісаліся настаўнікі гісторыі, беларускай мовы і літаратуры ды іншыя асобы, якія цікавяцца краязнаўствам, то было б некалькі дзесяткаў тысяч падпісчыкаў. На жаль, многія людзі не ведаюць, што такая газета ёсць. Дзяржаўныя СМІ яе рэкламаваць не будуць. Вы гэта і самі добра ведаеце...

Я чуў, што Сакрат Яновіч назваў многіх беларусаў «абы-якавічамі», таму што абы-як ставяцца да ўсяго роднага. Тым не менш, трэба вам, сябры, зрабіць усё магчымае і немагчымае, каб «Краязнаўчая газета» не знікла. У тым ліку і з падтрымкай дзяржаўных СМІ, усіх краязнаўцаў.

Мо і трэба вам больш арганізоўваць сустрэчы з чытачамі, краязнаўцамі ў раёнах. Давайце пачнем з Шаркаўшчынскага раёна. У Глыбокім выдаецца недзяржаўная газета «Вольнае Глыбокае» на 6 заходніх раёнаў Віцебскай вобласці. Газета друкуе шмат краязнаўчых матэрыялаў, таму што заснавальнік «Вольнага Глыбокага» Уладзімір Іванавіч Скрабатун – вядомы на Глыбоччыне краязнаўца.

Асабіста я напісаў артыкул аб вашым цікавым, змястоўным выданні з заклікам падпісацца на яго і пашлю ў нашу раённую газету «Кліч Радзімы», у «Вольнае Глыбокае», у абласныя газеты «Віцебскі рабочы» і «Народнае слова». Палгядзім, ці надрукуюць. З краязнаўчымі матэрыяламі на старонкі раённай газеты прабіцца цяжка, таму што газета друкуе многа матэрыялаў па сельскай гаспадарцы, аб хуткіх выбарах у мясцовыя Саветы.

Крыху пра сябе. Да 1996 года працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры, гісторыі ў Германавіцкай СШ. Калі выйшаў на пенсію, уладкаваўся на працу ў Германавіцкі музей мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча навуковым супрацоўнікам. «Краязнаўчая газета» дапамагае мне ў музейнай працы. На жаль, наш музей не атрымлівае яе, бо ў раённых аддзелах культуры не хапае грошай на падпіску на газеты і часопісы для ўстаноў культуры. Уздыміце і гэта пытанне на старонках вашай газеты, а лепш на старонках «Советской Белоруссии», «Культуры», «Літаратуры і мастацтва».

***Кліменцій КОЖАН,***
***навуковы супрацоўнік Германавіцкага музея мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча***

**Ад рэдакцыі.** ***Дзякуй, Клімент Арсенавіч, за спагадны ліст. Многія рэчы, якія Вы прапаноўваеце нам для прапаганды «КГ» і падпіскі на яе, мы выкарыстоўваем. Але нам трэба больш такіх аўтараў і чытачоў, энтузіястаў, як Вы. Тады справа, канечне, зрушылася б на лепшае.***

***Атрымалі і Ваш артыкул пра 175-годдзе паўстання ў Дзісненскім павеце ў 1831 годзе. Матэрыял велікаваты (18 старонак), але пастараемся выкарыстаць яго для публікацыі.***

## Нязвыклая вандроўка



Узгоркі і далягляды Гродзеншчыны вельмі ўражваюць, асабліва... калі доўгі час вандруеш толькі па Палессі, калі па краі бясконцай роўнядзі поймаў рэк, палёў, вялікіх лясоў і балот праедзеш на веласіпедзе ці пройдзеш пехатою сотні кіламетраў.

Таму нязвыкла і крыху няўтульна пачуваеш сябе ўпершыню на звілістых і ўзгорыстых вуліцах Слоніма. Але толькі на пэўны, невялікі час.



Потым жа вандравацъ па гэтым старым горадзе – адно задавальненне. Кожны паварот, узгорак рыхтуюць свае падарункі: вежы касцёлаў, святыя крыжы праваслаўных цэркваў, аднапавярховыя дамы з тутэйшай мястэчковай архітэктурай альбо срэбную стужку Шчары з амаль палескімі чаротам і дубамі...

Незвычайна цёплы сонечны дзень на самым пачатку зімы, на жаль, хутка скончыўся, але падараваў ціхую душэўную радасць і спакой ад знаёмства з ужо, здаецца, звыклай Гродзенскай зямлёй.

*Ігар ГРЭЧКА,*
*фота аўтара*

## Запаветная мара — фільм

*Хочам паставіць яго мы, гурт аднадумцаў. І фільм не проста з шэрагу цяперашніх «раздзьмутых» міліцэйска-бандыцкіх серыялаў. Марым сродкамі кіно сказаць сваё слова пра знакаміты, але не так ужо і шырока вядомы на Беларусі род Агінскіх, і ў прыватнасці, пра аднаго з іх – дзяржаўнага дзеяча і кампазітара М.К. Агінскага, аўтара знакамітага паланеза «Развітанне з Радзімай».*

У энцыклапедыях пазначана, што з княжацкага роду герба «Брама» («Агінец») Агінскія пачалі вылучацца ў XV і XVI стагоддзях. Калі мы заглыбіліся ў вывучэнне іхняй гісторыі, то напаткалі іхнія сляды яшчэ ў нашчадках роду Рурыкавічаў (тут не буду называць усе крыніцы даследавання, як і апускаю ролю Агінскіх у лёсе ВКЛ і Польшчы, як і чаму яны залічаныя не столькі да беларускай, колькі да польскай культуры). Што да М.К. Агінскага, то, зразумела, нам прыйшлося не толькі ўзяць за аснову многія легенды, што бытавалі пра яго, але і асабліва сканцэнтраваць сваю ўвагу на вывучэнні месца яго нараджэння, дакладнасці ў ягоным найменні (на гэта пайшло каля трох гадоў пошукаў – зразумела, пры дапамозе такіх зацікаўленых і дасведчаных асоб, як нашчадкі М.К. Агінскага А. і І. Залускія, як літаратуразнаўца А. Мальдзіс). Яны і іншыя паспрыялі значна дапоўніць новымі звесткамі і фарбамі жыццёвы і творчы шлях славутага кампазітара, адказаць на пытанне, чаму часамі ён сам дапускаў пэўную блытаніну для нашчадкаў. Напрыклад, у вызначэнні, хто такі князь Казельскі-Агінскі Клеафас... і Міхаіл Клеафас Агінскі, калі яны нарадзіліся (1764? 1765?): кампазітар асабіста любіў сябе называць найперш Міхаілам... Цяпер нам ясна, што ніякай дваякасці тут няма... Як і многае праяснілася з былых легенд пра яго ўдзел у паўстанні Т. Касцюшкі, пра яго службу Аляксандру І і захады па аднаўленні (аўтаномнага) ВКЛ у складзе Расійскай імперыі, пра яго высакародную турботу перад расійскім дваром наконт дапамогі беларускаму люду, па зямлі якога ў 1812 годзе двойчы пракацілася спусташальная вайна.

Мы лічым, што можам тое-сёе ўдакладніць: калі і дзе, пры якіх пачуццях ён стварыў свой неўміручы паланез, каго і што вельмі любіў, з кім і чым развітваўся. І, урэшце, здаецца, мы можам больш акрэслена не толькі эмоцыямі, але і фактамі расставіць акцэнты: хто гэты Агінскі – рускі князь, польскі альбо беларускі шляхціц? А гэта, зразумела, дае рэальную падставу нарэшце сказаць, што... Калі нам удасца рэалізаваць сваю задуму і выпусціць у свет дакументальна-мастацкі фільм «Тайны магнатаў. Агінскія», то мы, па-першае, выканаем абавязак перад К.М. Агінскім, а па-другое, паспрабуем наблізіць яго да нас...

*Сяргей ЗАЙЧКОЎСКІ*

**Ад рэдакцыі.** ***Мы цалкам разумеем аднаго са стваральнікаў вышэйзгаданага фільма, што ён сваю нататку падпісаў псеўданімам, а ў ёй, як кажуць, «не ўсе свае карты раскрывае». Ён і яго аднадумцы маюць на гэта поўнае права. Мы шчыра пажадаем ім ажыццявіць свае задуму, знаходкі ў архівах і стварыць змястоўны і цікавы фільм пра Асобу, якая жыла на нашай зямлі, шчыра і дбайна клапацілася пра наш люд, дабіваючыся для яго нацыянальна-дзяржаўнага і культурнага развіцця, светлай будучыні.***

## Сучасныя беларускія краязнаўцы

### Матэрыялы да слоўніка

**Карповіч** Міхаіл Міхайлавіч (н. 05.05.1930, в. Антонаўка, цяпер Навагрудскага раёна Гродзенскай вобл.). Скончыў Навагрудскае педагагічнае вучылішча, Магілёўскі педагагічны інстытут. Працаваў настаўнікам у в. Студзенаўшчына Казлоўшчынскага раёна, затым – у в. Явар Дзятлаўскага раёна. У Савецкай Арміі (1950–1952), настаўнікам Любчанскай СШ – з 1952 г. З 1964 г. – дырэктар Любчанскай СШ, дзе выкладаў гісторыю. Разам з настаўнікамі гісторыі Мікалаем Андрэевічам Вінерам і Мікалаем Міхайлавічам Пранкевічам удзяляў увагу арганізацыі ў школе краязнаўчай работы. У 1960–1970-я гг. працаваў намеснікам старшыні калгаса «Камунар», затым – дырэктарам Любчанскага навукова-вытворчага камбіната. У 1984–1989 – дырэктар Любчанскай СШ. Пачынаючы з сярэдзіны 1980-х працаваў над стварэннем новай экспазіцыі школьнага краязнаўчага музея. У 1998 г. музею было прысвоена званне «народны». На базе музея створана і плённа працуе пад кіраўніцтвам М.М. Карповіча вучнёўская лектарская група. Аўтар шэрагу аматарскіх кінафільмаў, прысвечаных Любчы і ваколіцам. І цяпер настаўнік-пенсіянер працуе дырэктарам школьнага кразнаўчага музея.

**Лапо** Іван Мікалаевіч (н. 07.07.1957, в. Асмолавічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.), рэкламны агент абласной газеты «Магілёўскія ведамасці», член Саюза журналістаў Беларусі. Скончыў БДУ (1991). Працаваў у Клімавіцкай і Хоцімскай раённых газетах (1977–2004). Краязнаўчую дзейнасць пачаў у 1988 г. Падрыхтаваў рукапісы кніг «Было ў маці сямёра дзяцей» (аб Клімавіцкім камсамольска-маладзёжным падполлі ў гады Вялікай Айчыннай вайны), «Ад "Ізвесцій"... да "Роднай нівы"» (аб гісторыі стварэння Клімавіцкай раённай газеты), «Цімана ва» (аб старажытнай вёсцы ў Клімавіцкім раёне), «Хацімчане» (да 80-годдзя Хоцімскага р-на). Цяпер працуе над іншымі, у тым ліку аб клімаўчанах – удзельніках Вялікай Айчыннай вайны, лепшых людзях горада і вёскі, умельцах фермерах, чарнобыльцах, знакамітых людзях, паэтах і празаіках Клімаўшчыны; сваіх падарожжах па родным краі і па-за яго межамі.

Тв.: Асмолавічы (2003).





*Прашу слова*

# Пра жывое, краязнаўчае...

***Паважаная рэдкалегія «Краязнаўчай газеты»! Мяне вельмі зацікавіў у вашым выданні матэрыял Анатоля Бутэвіча «Нацыянальнае толькі на экспарт?» І захацелася працягнуць размову. Нельга не пагадзіцца з Бутэвічам, што плач пра зніклую спадчыну і лянівае чаканне лепшага – напэўна, марная трата часу. Ды яшчэ калі нам распавядаюць, што «руская мова для нас родная, а Пушкін, Талстой, Ясенін – таксама нашы, і валодаем мы рускай мовай лепш за расіян, бо выйграём усе алімпіяды па рускай мове».***

Гэта, канечне, добра, што наша юнацтва глыбей спасцігае, апрача беларускай, і іншыя мовы, але не забывайма, што яшчэ 410 гадоў таму (1596) беларускі педагог, царкоўны дзеяч Л. Зізаній паклапаціўся сваёй «Грамматікай словенскай» – першым беларускім букваром, каб нашчадкі найперш глыбока вывучалі родную мову. У 1618 годзе ўкраінскі і беларускі пісьменнік-палеміст М. Сматрыцкі выдае «Граматыкі славенскія правільная сінтагма...», што больш чым два стагоддзі таксама спрыяла навуковаму засваенню і беларускай мовы.

*Калі я ўрач і ў штодзённай працы карыстаюся лацінскай мовай, я не разумею, як гэта можа пашкодзіць любіць і шанаваць сваю родную мову.*

Неяк раптоўна ўсе забыліся пра тое, хто ж стварыў «граматыку» славянскай мовы. А быў гэта наш знакаміты зямляк, выдатны царкоўны дзеяч беларускай зямлі – Мялецій Сматрыцкі (1572–1630). Па ёй потым сотні гадоў будуць вучыць мову, а Ламаносаў некалі скажа: «Граматыка Сматрыцкага – “врата” маёй вучонасці». Па яе ўзоры стварaліся ўсе пазнейшыя граматыкі рускай, а таксама балгарскай моў. Дык ніхто ж і не спрачаецца, што руская мова для нас чужая і ніхто не заклікае чытаць Пушкіна ў перакладзе на беларускую мову. Мы з задавальненнем чытаем на ёй і Тургенева, і Амбашыдзе, і Лацыса, і Твэна. Яна не толькі прыгожая, але ж для нас і вельмі неабходная, бо гэта мова міжнацыянальных зносін. Што алімпіяды выйграём – таксама нядрэнна, гэта гаворыць пра тое, што люд наш разумны і адукаваны. А вось што тычыцца тэрмінаў, тут зусім смех: калі я ўрач і ў штодзённай працы карыстаюся лацінскай мовай, я не разумею, як гэта можа пашкодзіць любіць і шанаваць сваю родную мову, няхай вучоныя робяць свае адкрыцці на той мове, на якой ім зручней. Мова Купалы, Коласа, Багдановіча – гэта мова, дадзеная нам Богам. Адмовіцца ад яе – здрадзіць і адпіхнуцца ад продкаў, адмовіцца ад будучага.

Аднак не магу пагадзіцца з Бутэвічам у тым, што нас толькі «купка». На маю думку, гэта не толькі тыя, хто выпісвае «Звязду» ды «Краязнаўчую газету». На шчасце, пакуль што значная частка раённых газет друкуецца на беларускай мове і амаль кожны вясковы жыхар выпісвае і з задавальненнем чытае іх. Ды і, спадзяюся, краязнаўцаў у нас у краіне ў сотні, а мо і ў тысячы разоў больш, чым тыраж паважанай «Краязнаўчай газеты». Аднак праўда і ў тым, што іх, як і чытачоў «Краязнаўчай газеты», не ўсюды слухаюць і чуюць.

Адзін са шляхоў да адраджэння, на маю думку, – гэта глыбейшае вывучэнне сваёй гісторыі, краязнаўчая праца. Вы ў гэтай справе працуеце сумленна і плённа. З першага нумара «КГ» пішаце не толькі пра развіццё роднай мовы, але і пра зніклыя вёскі, помнікавыя цуды Беларусі, пра славутых землякоў і невядомыя старонкі нашай гісторыі. Зусім не хітрую: я не ведаю іншай газеты, дзе б вось не толькі такое пісалася, але і побач з матэрыяламі нашых знакамітых пісьменнікаў, журналістаў, навукоўцаў, краязнаўцаў друкаваліся і маладыя аўтары, нават вучні. Друкаванае слова ў нашай краіне значыць вельмі шмат, а пытанні, што ўздымае

*А побач ляжыць падшыўка «Краязнаўчай газеты», і не кожны ім падказвае, што ў ёй можна знайсці матэрыял амаль на любую тэму.*

«Краязнаўчая газета», роднасныя, блізкія людзям усіх нацыянальнасцей, бо вы шчыра прапагандуеце і культуру іншых народаў.

Ды ў наш камерцыйны час трэба сродкі і на беларускамоўныя выданні ў Беларусі. Што тычыцца «Краязнаўчай газеты», то, на маю думку, неабходна больш настойліва дзейнічаць праз установы адукацыі, бібліятэкі. Яны з садка выхоўваюць, навучаюць маладое пакаленне зусім не адарвана ад нашай Радзімы, яе гісторыі, мовы і культуры.

Колькі разоў я заўважаў, як вучні, студэнты пры напісанні рэфератаў, іншых прац па гісторыі і культуры Беларусі гартаюць тоўстыя энцыклапедыі і даведнікі, а побач ляжыць падшыўка «Краязнаўчай газеты», і не кожны ім падказвае, што ў ёй можна знайсці матэрыял амаль на любую тэму, напісаны больш падрабязна і на цікавай, жывой мове.

Канечне, большы ўклад у справу папулярызацыі краязнаўства і «Краязнаўчай газеты» маглі б унесці студэнты гістарычнага, геаграфічнага, біялагічнага і іншых факультэтаў праз правядзенне розных дабрачынных акцый: вечарын, дыспутаў і інш. Ну, а калі, як кажуць, прыцісне, то, на маю думку, не трэба адмаўляцца ў газеце змясціць банкаўскі рахунак, на які маглі б пералічыць сродкі ахвочыя. Гэтыя грошы можна было б выкарыстаць для «КГ» і ўсёй краязнаўчай справы. А яшчэ мне хочацца верыць, што ў нашай краіне ўсё ж пачуюць голас шчырых і адданых краязнаўцаў.

*Пагадзіцеся, адна справа – упраўляцца з трактарам дзе-небудзь на мінскай новабудоўлі, і зусім іншая – з плугам на зямлі-карміцельцы...*

Наведваючы сваіх састарэлых бацькоў, я бываю ў вёсцы. З задавальненнем аднавяскоўцы расказваюць пра змены, пра адраджэнне вёскі: зямлі бяры колькі хочаш, жывёлу гадуй колькі зможаш... Але толькі заўсёды з сумам дадаюць, што такое гадкоў хоць бы на 10 раней!.. Цяпер многія адмаўляюцца ад зямлі і жывёлы, няма ні сіл, ні здароўя ў тых, хто любоў да зямлі, сялянскай працы атрымліваў з малаком маці. Адраджаць вёску ў многіх выпадках прыехалі неўладкаваныя гараджане. Гэта, безумоўна, добрая і неабходная справа. Толькі вось, стоячы неяк з дзядзькам каля свежа ўзаранага поля, ён, заслужаны ветэран, неяк нявесела ўсміхнуўся і сказаў: «І смех і грэх». Мне не хочацца цяпер абвінавачваць таго нядбайнага трактарыста, але ж пагадзіцеся, адна справа – упраўляцца з трактарам дзе-небудзь на мінскай новабудоўлі, і зусім іншая – з плугам на зямлі-карміцельцы...

Зусім нядаўна я пабываў у Дудутках. Амаль усё мне там спадабалася: у нас ёсць людзі, якія займаюцца не толькі размовамі, а і справай. Але ж я і пра іншае. Як высветліў са слоў экскурсавода, каб аднавіць па старадаўніх рэцэптах выпечку хатняга хлеба, прыйшлося аб'ездзіць усю Беларусь. А гадоў яшчэ 50 таму хатні хлеб выпякалі амаль у кожнай беларускай вёсцы.

Вось вам і кразнаўства... Якое яно разнастайнае і глыбокае!

Жадаю «Краязнаўчай газеце» далейшай пленнай працы, а ўсім краязнаўцам – аптымізму. І з Новым годам, сябры!

*Анатоль ВЕРАМЕЙ,*
*г. Мар'іна Горка*

**Ад рэдакцыі.** ***Дзякуй, шаноўны Анатоль, за такі шчыры ліст-артыкул, з якога хораша адчуваецца Ваша добрая душа грамадзяніна, краязнаўца. Што датычыць Вашай прапановы, каб адкрыць пры «Краязнаўчай газеце» разліковы рахунак для яе далейшага выдання, то мы падтрымалі гэту Вашу прапанову (гл. папярэднія нумары «КГ»).***

*Пераднавагодняе запытанне*

***Галіна ВАРАТЫНСКАЯ, журналіст, паэт, Ушачы:***

1. Зразумела, шмат часу, сіл забірае праца ў раённай газеце, але не хочацца быць у пэўным замкнутым коле: дом – рэдакцыя – дом. Таму знайшла і яшчэ сіл ды часу, каб быць з людзьмі і займацца любімай справай. Пры нашым РДК узначальваю клуб творчых сустрэч «Муза». Там вось ужо 8 гадоў ахвотна збіраемся мы, людзі розных узростаў і заняткаў (вучні, настаўнікі, літаратары, мастакі, музыканты, усе жадаючыя), ладзім розныя вечарыны, у тым ліку і краязнаўчыя, і іх з задавальненнем наведваюць не толькі насельнікі горада, але і жыхары з бліжэйшых гарадоў Віцебскай вобласці, землякі, якія цяпер жывуць і працуюць у Мінску. Паверце, мне вельмі ўсцешна, што многія з прыемнасцю зазначаюць нашу культурную прастору. А хіба можна не радавацца, што нашаму клубу прысвоена званне народнага, і мы гэтага шанавітага звання не ўпускаем?! Што да «КГ», то яе цяпер выпісваю двойчы – на клуб і сабе.

2. Я – жывы чалавек, жонка, маці. Хачу, каб ва ўсіх нас было здароўе, свае поспехі, добры настрой. А гэта ж – самая простая ўмова шчасця. Як паэтэса, вельмі жадаецца, каб у 2007-м нарэшце пабачыла свет мая новая кніга паэзіі.

***Вячаслаў ЧАМЯРЫЦКІ, кандыдат філалагічных навук, Мінск:***

1. 2006-ы быў для мяне шмат у чым этапны. Споўнілася 70. Надта ж хутка ляціць час. Гэта змушае засяродзіцца: што трэба зрабіць першачаргова. Былі і радасныя, і вельмі сумныя дні, падзеі. Выйшаў з друку першы том «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стст.» – важкі плён шматгадовай працы нашых навукоўцаў, у стварэнне якой і мной асабіста было ўкладзена нямала сіл. Парадавала, што гэтая праца хутка знікла з паліцаў нашых кнігарняў – значыць, вельмі патрэбная людзям.

А горасна таму, што ў лістападзе, не дажыўшы тыдня да 99 гадоў, памерла мая маці, з малаком якой я ўвабраў таксама любоў да бацькоўскага краю і роднага слова.

2. Новы год не дадае вялікага аптымізму, хоць спадзяванні на станоўчыя вынікі працы застаюцца. Не трачу надзеі, што ў 2007-м выйдзе і другі том вышэйназванай «Гісторыі», над дапрацоўкай якой мы цяпер пацеем. Планую завяршыць укладанне і, магчыма, выдаць асобнай кнігай зборнік «Жыватворная спадчына» – своеасаблівае выбранае з апублікаваных і ненадрукаваных сваіх прац, што не паспеў ажыццявіць летась. Спадзяюся таксама, што цікавасць нашых суайчыннікаў да багатай культурна-гістарычнай спадчыны беларускага народа не аслабне і што, у прыватнасці, тыраж на так патрэбную нам усім «КГ» вырасце.

## *Кароткі слоўнік* краязнаўча-прававой тэрміналогіі *беларускай старажытнасці*



***(Пачатак у № 3 за 2005 г.)***

**СЯЛЯНЕ** (працяг). Велізарную ролю ў лёсе беларускага сялянства эпохі ВКЛ адыгрывалі разнастайныя тагачасныя ўрадавыя пастановы, у якіх па-свойму быў разлік і на эканамічна-сацыяльнае становішча працаўнікоў, і на іх далейшае запрыгоньванне. Гэта асабліва ярка праявілася пасля прыняцця валочнай памеры (аграрная рэформа, што пачала ажыццяўляцца ў ВКЛ пасля 1530-х гг.; у свой час «КГ» змясціла пра яе даволі падрабязны артыкул).

Паводле рознасці залежнасці ад гаспадара сяляне падзяляліся на некалькі катэгорый – на людзей «пахожых» («КГ» напамінала пра гэта). чэлядзь (рознага віду слугі, пра што артыкул будзе пазней). Асноўным юрыдычным прынцыпам запрыгоньвання сялян была даўнасць – працяглы час жыцця ў аднаго феадала-магната. Людзі «пахожыя», якія пражылі ў пана 10 і больш гадоў, не мелі права выхаду, залічалася ў лік «непахожых». Прывілей 1447 г. замацаваў так званае прыгоннае права. Яго па-свойму падпраўлялі Статуты 1529, 1566 і 1588 гг. На жаль, паводле іх правы сялянства былі заніжаныя. Адпаведна, гэта не магло не выклікаць сацыяльнае абурэнне, класавую барацьбу: у сялян стала адным з асноўных матываў пастаянная турбота змагання за «сваю зямлю». Гэта ў першай чвэрці XX ст. геніяльна адлюстраваў Якуб Колас у паэме «Новая зямля». Пясняр самых лепшых пачуццяў, памкненняў беларускага народа, Я. Колас мудра ўзвысіўся і да асэнсаванасці беларускім сялянствам сваёй ролі – ролі адпаведнага класа ў дзяржаве, у якой свая тэрыторыя, гістарычная памяць, мова і культура.

Як зазначана сучаснымі навукова-даследчымі выданнямі, рост розных форм феадальнага прыгнёту ішоў побач з юрыдычным і эканамічным пагаршэннем стану сялянства, але справядлівыя скаргі сялян не заўсёды належна выслухоўваліся, нават падмяняліся рознымі юрыдычнымі выкрунтасамі. У многіх выпадках сяляне прайгравалі судовыя працэсы ўжо загадзя, без віны вінаватыя. Буйныя землеўласнікі пастаянна ўлічвалі гэтую сітуацыю і выкарыстоўвалі яе. Нават маглі, абыходзячы тагачасныя законы, прымаць незаконна збеглых сялян ад сваіх гаспадароў. Менш багатыя і ўладныя за такіх магнатаў ужо загадзя прайгравалі ўсе судовыя справы.

Сяляне мелі законнае права скардзіцца, адстойваць свае жыццёвыя і грамадскія інтарэсы, хоць гэта не гарантавала ажыццяўлення їхніх заслужаных патрабаванняў. Таму патрабаванні станавіліся ўсё больш рэзкія, часамі нават набывалі ўзбройна-бунтоўны характар.

*Забытае імя*

# Евец вядомы ў Марока і Францыі

**У працэсе тэксталагічнай працы адзін з самых складаных, але і самых захапляльных момантаў – каментаванне тэкстаў. Часам некалькі тыдняў можаш патраціць на пошукі, на першы погляд, «дробязі» – двух радкоў каментарыя: персаналія, гады жыцця, галіна дзейнасці. А за радкамі застаецца часам важная інфармацыя пра яркую асобу, якая пакінула прыкметны след у культуры, навуцы, палітыцы. Асабліва шкада, калі гэта тычыцца імёнаў нашых землякоў.**

Мне трэба было пракаментаваць артыкул У. Самойлы «Два канцэрты хору Рыгора Шырмы», апублікаваны ў 1939 годзе ў заходнебеларускім часопісе «Калоссе». Аўтар з незвычайнай пашанай адносіцца да працы Р.Р. Шырмы, яго бездакорнага мастацкага густу, выбару для выканання хорам адаптацый беларускіх песень, зробленых Галкоўскім, Гайваронскім, Грачанінавым, Евецам, Кошыцам, Рагоўскім, Свешнікавым, Уладзімірскім. Не скажу, што ўсе прозвішчы знаёмыя, але адно абсалютна не выклікала ніякіх асацыяцый – Евец. Ні ў савецкай «Музыкальной энциклопедии» у 6-ці тамах, ні ў навейшай шматтомнай «Музычнай энцыклапедыі», выдадзенай у Германіі, ні ў іншых даведніках, ні ў перыядычным друку гэтае імя нідзе не ўпамінаецца. Нават дапамога супрацоўнікаў музычна-нотнага аддзела Нацыянальнай бібліятэкі не высветліла праблему. Знайшлі адзінае ўпамінанне прозвішча Евец у інтэрнеце, вельмі нечаканае: ішла спасылка, што ў мараканскіх газетах 50-х гадоў XX стагоддзя гаворыцца пра вялікі поспех канцэртаў рускага царкоўнага хору г. Касабланкі, якім кіруе Евец.

Між тым, Яўген Іванавіч Евец – наш зямляк, нарадзіўся ў 1905 годзе ў Гродзенскай губерні, больш дакладнае месца нараджэння невядома, як і невядома, дзе ён атрымаў першапачатковую музычную адукацыю, але захаваліся звесткі, што ў 1933–1936 гадах ён вучыўся ў Варшаўскай кансерваторыі. Няма дадзеных, чым ён займаўся пасля 1936 года, але ў 1939–1941 гадах Евец – псаломшчык і рэгент царквы ў Бельску-Падляскім. Невядома, якім чынам у час Другой сусветнай вайны ён трапіў у Германію, хутчэй за ўсё быў выгнаны, бо яго сляды знаходзім у канцэнтрацыйным лагеры Менгегоф (каля г. Касселя), дзе ён стаў адным з заснавальнікаў і рэгентам праваслаўнага царкоўнага хору. Можна толькі здагадвацца пра прычыны, якія не дазволілі Яўгену Іванавічу вярнуцца на радзіму, але з 1948 года ён жыве ў Марока, у г. Касабланка, кіруе царкоўным хорам. Менавіта не кампазітарская, а рэлігійная дзейнасць прынесла Евецу павагу далёка за межамі Марока, бо з 1962 года ён жыве ў Францыі, працуе рэгентам хору Аляксандра-Неўскага сабора ў Парыжы (з 1968 года). У Расіі без упамінання пра гэты сабор на вул. Дару і пра гэты хор было шмат перадач, фільмаў, калі ішла размова пра рускіх эмігрантаў, але ніколі (!) ніхто (!) слова не сказаў пра нашага земляка. Між тым Я.І. Евец многа займаўся папулярызацыяй царкоўных спеваў, быў адным з тых, хто адаптаваў пераклады праваслаўных царкоўных тэкстаў на французскую мову. Памёр ён 17 сакавіка 1990 года ў Парыжы і пахаваны на самых вядомых у замежжы рускіх могілках Сэнт-Жэнеўеў дэ Буа ў ваколіцах Парыжа.

На жаль, пакуль нам невядомая арыгінальная музычная спадчына Я.І. Евеца, але вядомы вузкаму колу даследчыкаў шматлікія апрацоўкі беларускіх песень для хору Р.Р. Шырмы. І можна быць упэўненым, што як рэлігійны дзеяч рускага замежжа ён быў вядомы, да гэтага часу не забыты нашчадкамі.

Лёс Яўгена Іванавіча Евеца – дастойная сына Беларусі – яшчэ адно пацвярджэнне складанага гістарычнага лёсу Бацькаўшчыны. Можна толькі шкадаваць, што ён, чалавек з патэнцыяльна вялікімі здольнасцямі, быў вымушаны жыць і працаваць далёка ад Радзімы.

На жаль, інтуіцыя У. Самойлы, які пісаў: «Адзначым яшчэ працы маладога беларускага кампазітара Еўца, які падае добрыя надзеі», не спраўдзілася, талент на беларускай глебе не быў цалкам рэалізаваны і не стаў шырока вядомы землякам.

***Вольга ДЭКОНСКАЯ,*** ***навуковы супрацоўнік***

*З даўняга пабрацімства*

# У абарону народа

**Уладзімір Міхайлавіч ГНАЦЮК** (1871–1926) – выдатны ўкраінскі фалькларыст і этнограф. Ён быў вядомым славістам, перакладчыкам, выдаўцом і папулярызатарам літаратуры славянскіх народаў. Усё сваё жыццё У. Гнацюк цікавіўся фальклорыстычнай творчасцю братніх славянскіх народаў, прыкладваў між імі надзейныя масты дружбы. Ён збіраў не толькі ўкраінскую народна-паэтычную творчасць, але і рускую, і беларускую, цікавіўся даследаваннямі пра культуру беларускага народа.

У сям'і славянскіх народаў, гаварыў У. Гнацюк, беларусаў ведаюць менш за ўсё таму, што яны не маюць сваёй дзяржаўнасці і штораз залічваюцца то да палякаў, то да рускіх, то да украінцаў. Такое стаўленне да беларускага народа ён называе апераццыяй на жывым арганізме і зазначае, што для кожнага непрадуюзятага даследчыка няма сумнення ў уласнае прызнанне за беларусамі нацыянальнай самабытнасці і самастойнасці.

У. Гнацюк рашуча выступаў супраць прыніжэння нацыянальнай годнасці беларускага народа (рэцэнзія на працу М. Косіч «Ліцвіны – беларусы Чарнігаўскай губерні, іх быт і песні», 1903). Ён рэцэнзуе кнігу нашага этнографа М.Я. Нікіфароўскага «Очерки простонародного житья-бытья Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности». Асабліва высока цаніў ён фундаментальнае даследаванне Я. Карскага «Белоруссы», а таксама матэрыялы з жыцця беларускага народа фалькларыста і этнографа М. Федароўскага. З Я. Карскім У. Гнацюк меў перапіску.

У зборніках «Этнаграфічныя матэрыялы з Угорскай Русі», «Украінская народная славеснасць», «Матэрыялы да ўкраінскай этнаграфіі», у шматлікіх фалькларыстычных працах, надрукаваных у «Запісках» навуковага таварыства імя Т. Шаўчэнкі, У. Гнацюк часта параўноўвае ўкраінскі фальклор з беларускім, указваючы на агульныя матывы і сюжэты.

***Сяргей ПАНІЗЬНІК***



*Львоўскі музей украінскага мастацтва*

# Жыве памяць

У 60–70 гады мінулага стагоддзя адным з самых папулярных гісторыкаў на Беларусі быў доктар гістарычных навук, прафесар Міхаіл Яхімавіч Шкляр. Шырокай папулярнасці ўдалося дамагчыся дзякуючы навуковым працам па актуальных для таго часу праблемах.

Шмат навуковых кніг выйшла пад рэдакцыяй М. Шкляра. За шчасце лічылася быць яго аспірантам. Многія яго вучні сталі добра вядомымі навукоўцамі і за межамі нашай краіны. Словам, навуковая спадчына М. Шкляра надзвычай багатая. І хаця апошнімі гадамі адбыліся кардынальныя змены ў эканамічным, палітычным і нацыянальна-культурным жыцці, да яе працягваюць звяртацца даследчыкі, што пішуць гісторыю Беларусі першых гадоў пасляkastрычніцкага перыяду.

Нарадзіўся М. Шкляр 7 кастрычніка 1916 года ў багатым на гістарычныя падзеі мястэчку Магільна, размешчаным на левым беразе Нёмана. Яно належыць да ліку тых населеных пунктаў, дзе вельмі рана пасяліліся яўрэі. Да Другой сусветнай вайны ў ім жыло каля сотні прадстаўнікоў гэтага старажытнага народа. Фашысты не пакінулі ў жывых ні аднаго з іх. Уцалелі толькі дзеці магільнянскіх яўрэяў, што вучыліся ці працавалі ў гарадах і змаглі эвакуявацца ў савецкі тыл.

Сярод такіх шчаслівчыкаў быў і М. Шкляр, які ў 1941 годзе скончыў Мінскі педагагічны інстытут. Жывым застаўся і яго родны брат Абрам – выкладчык Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У 1960-я гады ён стане доктарам геаграфічных навук, прафесарам. Ім цяжка было змірыцца са стратай бацькоў і малодшага брата Генадзя – выдатніка Магільнянскай сярэдняй школы (у 1941 годзе скончыў 7 класаў).

Гэтую яўрэйскую сям'ю напаткала яшчэ адна вялікая бяда: перад вайной у час пажару ў Магільным згарэў іх дом. І пасля вайны Міхаілу (дарэчы, у вёсцы ўсе ведалі яго як Мойшу) з Абрамам не было дзе прытуліцца на «малой радзіме». Але яны не забываліся пра землякоў. Спрыяла гэтаму працяглае шчырае сяброўства з аднавяскоўцам, адназгодкам Паўлам Ліпілам, які на працягу 1947–1991 гадоў працаваў у Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ (адзін час намеснікам дырэктара). Не так часта, але яны ўсё ж наведвалі разам Магільна.

Родам з Магільнага і аўтар гэтых радкоў. Ні Міхаіла, ні Абрама да вайны я не ведаў. З першым з іх пазнаёміўся дзесьці ў 1965 годзе. Папярэднічала гэтаму наступнае: рыхтуючыся ў 1962 годзе да паступлення на завочнае аддзяленне аспірантуры Інстытута гісторыі АН БССР, я ў кнізе «Гісторыя Беларускай ССР» (Т. II. Мн., 1958) наткнуўся на такі абзац: «Рабочыя і сяляне Беларусі віталі рашэнні Камуністычнай партыі аб кааперацыі. Беспартыйная канферэнцыя Магільнянскай воласці Мінскай губерні ў сваёй пастанове запісала: «Добра разумеючы важнасць кааперацыі для сялянства і ацэньваючы ў вышэйшай ступені правільны шлях, узяты Савецкай уладай у справе развіцця і ўмацавання кааперацыі, заклікаючай узняць матэрыяльны дабрабыт і культурнае развіццё, мы ... пастанаўляем прыняць самы блізкі ўдзел у падтрымцы і развіцці нашай кааперацыі шляхам унясення паёў і ўкладаў і пазык, а таксама каб кожны пайшчык прыцягнуў яшчэ аднаго чалавека ў пайшчыкі, растлумачваючы ўсю выгаду кааперацыі».

Паглядзеў у прадмову і даведаўся, што гэты абзац з напісанага М. Шклярам раздзела. Зразумела, у мяне з'явілася вялікае жаданне сустрэцца з яго аўтарам. Але калі сказалі, што ён доктар гістарычных навук, прафесар, у мяне не хапіла смеласці пайсці да яго на сустрэчу.



Смеласць з'явілася пазней, як я два-тры гады папрацаваў у Інстытуце гісторыі АН БССР малодшым навуковым супрацоўнікам, часта ўступаў у дыялогі з навукоўцамі аднолькавага рангу са М. Шклярам. Таму калі ён у нашым інстытуце ў чарговы раз выступаў апанентам па кандыдацкай дысертацыі, я не мог не закрануць так набалелае мне пытанне з вышэй прыведзеным абзацам. Кароткая размова прынесла нам абодвум вялікую радасць, паклала пачатак сталым кантактам.

Зразумела, больш карысці гэта давала мне як чалавеку маладзейшаму і непараўнальна ў меншай ступені прафесійна падрыхтаванаму. Ад М. Шкляра я атрымаў водгук на аўтарэферат кандыдацкай дысертацыі маёй жонкі Ефрасінні Андрэевай, якой ён дапамог знайсці кіраўніка па кандыдацкай дысертацыі. Раіўся я са сваім паважаным земляком пры выбары тэмы доктарскай дысертацыі, якую вырашыў прысвяціць даследаванню нацыянальнага пытання ў міжваеннай Беларусі.

У цесным кантакце быў М. Шкляр з маім малодшым братам, кандыдатам фізіка-матэматычных навук Анатолем. Паспрыяла гэтаму навучанне дачкі М. Шкляра ў адным з інстытутаў такога профілю навучання. Словам, у нас склаліся добразычлівыя дачыненні, якія ледзь не цалкам капіравалі стасункі беларусаў, яўрэяў нашага роднага мястэчка. Шкада, што доўжыліся яны вельмі кароткі час: 10 студзеня 1978 года скончылася зямное жыццё таленавітага навукоўца, чалавека добрай душы Міхаіла Шкляра.

Уклад Міхаіла Шкляра ў гістарычную навуку, падрыхтоўку кваліфікаваных кадраў для яе надзвычай важкі. Навуковая грамадскасць гэтага не можа не цаніць. Ды й 90-годдзе – добрая нагода, каб аддаць даніну пашаны. У БДУ з 1963 года і да канца свайго жыцця працаваў юбіляр, таму ініцыятыву мог бы ўзяць на сябе яго рэктарат. Далучыць да падзеі можна Уздзенскі гісторыка-краязнаўчы музей, у якім знаходзяцца многія матэрыялы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю М. Шкляра. Мэтазгодным лічу падключэнне да правядзення гэтага мерапрыемства педагогаў і вучняў Магільнянскай школы, што дапаможа паглыбіць іх веды пра гісторыю свайго мястэчка, а разам з гэтым і краіны ў цэлым.

***Леанід ЛЫЧ,*** ***доктар гістарычных навук, прафесар***

# Звініць-гудзе маленькая пчала

***У народзе са старажытных часоў кажуць: «Працавіты, як пчала». І сапраўды, гэтыя малюсенькія стварэнні працуюць надзіва многа. Толькі і чуваць над квітнеючым садам ці над грэчневым полем бесперапынны гуд: пчолы збіраюць мёд. Сярод вяскоўцаў да нашых дзён захаваліся паасобныя адбіткі пакланення пчолам, ці, як іх яшчэ называлі, «боскім істотам».***

У гэтых адносінах вельмі характэрны раздзел паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» – «Падгляд пчол». У ім даецца апісанне збору мёду на пасецы галоўнага героя твора Міхала. Прачытаўшы гэтае месца паэмы, не можаш не задаць пытанне: «Навошта было гаспадару на гэты момант збіраць сваіх сародзічаў, наладжваць з гэтага выпадку для іх баль і, самае галоўнае, дзяліць між імі мёд?» Прычым робіць гэта не сам гаспадар, а адзін з яго гасцей. Адказ на яго вядзе нас яшчэ ў родаваабшчынны лад, калі ўсё, у тым ліку і борці, было ў агульным уладанні родаў і ўсё здабытае і сабранае, таксама і мёд, дзялілася паміж членамі роду. І як гэта не дзіўна, такі архаічны звычай змог захавацца ў асяроддзі панямонскіх беларусаў аж да пачатку XX стагоддзя.

Болей таго, у Статуце Вялікага княства Літоўскага 1588 года ў раздзеле дзесятым ажно чатыры артыкулы прысвечаны борцям, бортным дрэвам і самім пчолам. Вось пра што там гаварылася: «Хто б пашкодзіў чужое бортнае дрэва з пчоламі, хвою ці дуб, ці іншае бортнае дрэва, корань ля зямлі падсек, ці агнём падпаліў, ці хто-небудзь выпадкова ненарокам пашкодзіў, той за кожнае дрэва з пчоламі павінен будзе заплаціць па дзве капы грошай, а за пашкоджанае дрэва без пчол – капу грошай, за прызначанае пад борць дрэва – паўкапы грошай. А хто б каго сілаю, прымусова выцясняў каго-небудзь з зямлі ці з адвечных уваходаў, ці таксама зладзейскім намерам абсек ці падпаліў бортнае дрэва, ці адзнакі высек або агнём выпаліў і гэта было даказана, тады павінен заплаціць гаспадару за борць з нявыбраным мёдам – тры рублі грошай, за дрэва бортнае, у якім раней пчолы былі, хоць яно і без пчол, але пашкоджанае, – па дзве капы грошай, за выробленае на борць дрэва, дзе пчол яшчэ не было, – капу грошай, а за ствол без борці, колькі б іх ні пашкодзіў, – за кожны па паўкапы грошай» (артыкул 13).

Як бачым, вельмі строга і пільна ахоўваліся правы людзей, якія валодалі борцямі, і, з другога боку, вельмі ж суровым было пакаранне за разбурэнне борцяў ці пакражу мёду, бо тры ці шэсць рублёў – гэта занадта вялікія грошы для таго часу. А каго злавілі на месцы злачынства, чакаў смяротны прысуд. Нічога не зробіш. Нашы продкі жылі па сваіх законах.

Менавіта на беларускім Палессі ўзнік своеасаблівы лясны промысел, які, дзякуючы шырокаму распаўсюджванню і велізарнаму эканамічнаму значэнню, прадвызначыў на некалькі стагоддзяў характар развіцця гэтага ляснога краю. Промысел атрымаў назву «бортніцтва» (ад слова «борць» – штучна выдзеўбанае ў дрэве дупло для пчол) і быў заснаваны на развядзенні і ўтрыманні лясных пчол (баровак) у штучных дуплах – борцях. Бортніцтва атрымала развіццё з дзікага пчалярства, калі чалавек выпадкова, а пазней і свядома знаходзіў пчаліныя гнёзды ў дуплах дрэў, знішчаў агнём пчол і забіраў мёд. Гэта была звычайная жыццёвая справа.

Як самастойны від ляснога промыслу бортніцтва прайшло тры этапы развіцця: ахова і догляд дзікіх пчол у знойдзеных дуплах; свядомае ўтрыманне адселенага рою ў прыстасаваных пад борці натуральных дуплах; развядзенне і ўтрыманне рою ў спецыяльна зробленых борцях. Станаўленне бортніцтва адбылося ў першыя стагоддзі нашай эры, што пацвярджаецца ўскосна лінгвістычным матэрыялам (словы «мёд», «воск», «матка», «труцень» этымалагічна ўзыходзяць да агульнаславянскага моўнага адзінства). Пераход да класічнай формы бортніцтва адбыўся са з'яўленнем жалезных прылад працы, калі стала магчымым выдзёўбваць борці ў сырых ствалах дрэў. Свайго росквіту яно дасягнула ў X–XII стагоддзях.



На працягу стагоддзяў бортніцтва задавальняла патрэбы ўсходніх славян у мёдзе і іншых прадуктах жыццядзейнасці пчол – воску, праполісу. Мёд і воск былі галоўным відам экспарту. У пачатку XVI стагоддзя толькі праз Полацкую мытню штогод вывозілася больш за дзве тысячы пудоў воску. У той час на Беларусі было больш аднаго мільёна борцяў, таварная прадукцыя якіх перавышала пяцьсот тысяч пудоў мёду штогод. Бортніцтва было найбольш прыбытковай галіной гаспадаркі. У 1773 годзе Члухаўскае лясніцтва ў Аўгустоўскай пушчы за продаж драўніны атрымала 14 талераў 25 грошаў, а бортны падатак склаў 507 талераў.

Бортніцтва выпрацавала сваю тэхналогію ўтрымання і догляду пчол, адмысловую тэхніку вырабу борцяў, бортных прылад і прыстасаванняў, посуду для транспартыроўкі і захоўвання мёду, а таксама сродкі аховы борцяў, свае прававыя нормы.

З канца XVII стагоддзя ў выніку масавых высечак лясоў на продаж, пад ворыва, для прамысловых мэт пачаўся заняпад бортніцтва, а ў першай палове XIX стагоддзя яно страціла сваё ранейшае гаспадарчае значэнне і саступіла месца калоднаму пчалярству.

На Палессі цяпер засталося толькі некалькі борцяў, дзе па-ранейшаму жывуць пчолы. А калісьці борцяў было многія тысячы! У невялікіх лясных вёсачках дажываюць свае дні і апошнія бортнікі, узрост якіх ужо вельмі сталы. Патрэбна адзначыць таксама, што праца бортніка патрабавала вялікіх практычных ведаў, спрыту і немалой фізічнай сілы. Борць выдзёўбвалі задоўга да раення пчолак, часцей за ўсё ў сасне ці ў дубе, на якія бортнік узбіраўся пры дапамозе спецыяльнай прылады – лезіва. Доўгія гадзіны даводзілася вісець высока над зямлёй, выдзёўбваючы новую борць, якую потым нярэдка пазначалі спецыяльным знакам – бортнымі знаменамі. Ва ўладаннях аднаго бортніка было да некалькіх дзесяткаў бортных дрэваў, а ў некаторых дрэвах знаходзілася па тры, а то і болей борцяў. Такія дрэвы асабліва цаніліся і былі гонарам іх гаспадара.

У Вялікім княстве Літоўскім некаторыя бортнікі, у асноўным гараджане і дробная шляхта, аб'ядноўваліся ў асобныя прафесійныя карпарацыі – цэхі, якія мелі ўласныя статуты, знамена і рытуал. Індустрыя бортнага промыслу і перапрацоўкі яго прадукцыі была вельмі развітой, аб чым сведчаць як назвы спецыяльнасцей, звязаных з промыслам і перапрацоўкай мёду і воску, так і градацыяй паселішчаў і рэгіёнаў, дзе займаліся пераважна бортніцтвам.

Майстар бортнік карыстаўся вялікай колькасцю самых розных інструментаў, якія дапамагалі яму на ўсіх этапах яго нялёгкай (а падчас і небяспечнай) працы. Некаторыя з іх ён рабіў сам, іншыя купляў у горадзе ці заказваў мясцоваваму кавалю, цесляру. Усе гэтыя інструменты таксама пазначаліся нейкімі знакамі, якія ўказвалі на прыналежнасць канкрэтнаму бортніку. Яны былі своеасаблівым пашпартам майстра.

Што датычыць знаменаў на борцях, то «пісьмёны» з'явіліся, магчыма, яшчэ тады, калі ў славян увогуле не было ніякага пісьменства. Не выключана, што бортныя знамена прайшлі шматвяковую градацыю ў сваім развіцці. Гэта свайго роду сялянская геральдычная сістэма, дасканала разабрацца ў якой мы пакуль што не здолелі.

Прафесія бортніка перадавалася ў спадчыну ад бацькі да сына, якога ён з малых гадоў знаёміў з усімі таямніцамі старажытнай прафесіі. Напрыклад, каб перасяліць рой у новую борць, здзяйснялася цэлае таямнічае дзеянне – тварба, у склад якой уваходзіла і своеасаблівая інсцэніроўка будучага збору мёду з заклікамі і замовамі, і апырскванне настоем з кветак і траў, і абкурванне верасам, і націранне і г.д. Толькі перад самай смерцю бортнік паведамляў свайму пераемніку найбольшыя прафесійныя таямніцы. Ён вучыў яго варажыць і перадаваў свой бортны знак, які амаль заўсёды складаўся са спалучэнняў розных па велічыні і форме трохвугольнікаў, дужак, колцаў, рысачак.

Крыху пазней, калі пачаўся заняпад бортніцтва, як мы ўжо адзначалі, у сувязі з вынішчэннем першастваральных лясоў, у Беларусі пачало развівацца калоднае пчалярства, пры якім дупло для пчол выдзёўбвалася не ў жывым дрэве, а ў яго адсечанай частцы, якую і называлі ў народзе калодай, або вулеем. Калоды звычайна развешвалі на дрэвах або на спецыяльна прыстасаваных для гэтай мэты падкурах, прымацаваных да ствала дрэва, ставілі і на зямлю. Да гэтага часу на самых вялікіх дрэвах, якія растуць у нашых лясах, можна ўбачыць тысячы такіх пустых калод, якія застаюцца своеасаблівым напамінам аб старажытным промысле, аб адной з самых істотных рыс культуры беларускіх сялян.

У сярэдзіне XIX стагоддзя калоду замяніў разборны вулей з рухомымі рамкамі, але канчатковы пераход да рамкавага пчалярства завяршыўся толькі дзесьці ў 40–50-я гады XX стагоддзя.

Цяпер паспрабуем адказаць на пытанне, якое цікавіць многіх чытачоў: адкуль з'явіліся на свеце працалюбівыя пчолкі?

Вельмі часта пчалу ў народзе параўноўвалі з маланкай. Тут, мабыць, асноўную ролю адыграла тое, што пчала, як і маланка, хутка лётае і балюча кусаецца. Праўда, для адных такія ўкусы з'яўляюцца шкоднымі, а для іншых – лекамі, якія ляжаць у аснове народнай медыцыны.

Здаралася, пчалу параўноўвалі таксама з дзятлам (у народнай міфалогіі ён быў прадвеснікам маланкі). Казалі – раз дзяцел сядзіць на страсе і стукае сваёй дзюбай, то ў гэтым будынку абавязкова ў бліжэйшыя дні будзе шугаць полымя, запаленае маланкай. Таму, калі на хату асядаў пчаліны рой, то, на думку патрыярхальных людзей, хутка павінен будзе здарыцца пажар. Можа, так сцвярджалі таму, што ў подыху летняй навальніцы чуйнае вуха нашага далёкага продка выразна вылучала ці асацыявала гуд пчолак-маланак, якія быццам бы раяцца ў аблоках і збіраюць мёд у квітнеючых завоблачных садах.

У беларускім фальклоры ўзнікненне пчолак на белым свеце тлумачыцца вось як: «Стварыў Бог чмялёў, а чорт пчол. Бачыць Бог, што мала ў яго толку і прыбытку: рой увесь у яго разляціцца куды ні пападзі, дый мёду няма. Зайшоў ён да чорта паглядзець, што ў яго дзеецца. Той пакарміў яго мёдам. Спадабаўся Богу мёд, і яму завідна стала.

– Будзем, – кажа ён чорту, – мяняцца.

Чорт, зразумела, не згадзіўся.

– Ну, дык добра, – кажа Бог. – Бачу, што з табой нічога не зробіш, дык саступі мне хоць адну пчалу.

Падумаў-падумаў чорт, дый згадзіўся. Бог узяў ад чорта пчалу, дунуў на яе, і зрабілася яна маткай. Запела матка, зазвінела і пачала ўздымацца ўверх. Пчолы ўсе ўзняліся за ёй да й паляцелі. Вось чорт і застаўся ні з чым, а ў Бога – і мёд, і воск».

У народзе існавала вялікая колькасць практычных парад і ўсемагчымых прафесійных сакрэтаў, якія, на думку пчаляроў, дапамагалі ім атрымліваць добры збор мёду і захоўваць сваіх пчолак жывымі. Ф.І. Буслаеў падкрэсліваў наступнае: «Сваіх пчолак абкуры воўчай губой, і панясуць тады мёд з чужых борцяў у твае борці. Косць асятра ўхваляюць: уваткні ў сярэдзіну пчалінага вулля, дзе пчолы жывуць, ды і ў пусты вулей косць асятра ўваткнеш ці ў борць, і ў тым дрэве потым пчолы жывуць і водзяцца. Ёсць траўка высокая, падобная на набелу, матачнік завецца, а кветкі на ёй сінія, як званочкі, а наверсе, як хвосцік, кветачка і па баках кветкі сінія таксама, а расце на ўзмежках. На той траўцы, на кветачцы, матка пчаліная сама здараецца і бярэ, што ёй толькі патрэбна. Той траўкай добра вуллі націраць і ўсялякія борці; у тым дрэве і ў вулеі пчолы любяць жыць. І той траўкай падфарбоўваюць пчол і парожнія вуллі і борці вясной: пасля гэтага падлятаюць пчолы. Добра падкурваць асінавым лістом, гэта вельмі здорава.

А каму ісці да пчол, узяць тры лісты падарожніку і трымаць у роце, таго пчолы не ўкусяць».

І гэтая з'ява наглядалася не толькі ў славянскіх, але і ў многіх іншых народаў свету.

Як мы ўжо згадвалі вышэй, пчала лічылася ў народзе свяшчэннай істотай, нярэдка яе звалі «божай». Таму адзінае месца, дзе мог схавацца нячысты дух, ці нячысцік (чорт), – гэта вулей або борць. Сюды не асмельваўся біць сваёй маланкай нават усемагутны Ілля, якому ўсе іншыя мясціны былі даступныя. Праўда, старажытныя беларусы адзначалі, што ад яго стрэл чарцей выратоўвае балота, куды ён таксама не пажадаў лезці. «Каго ўкусіць пчала, – гаварылі патрыярхальныя людзі, – той грэшны чалавек». Калі ў нейчы двор залятаў рой, то гаспадар мог смела радавацца – яму прываліла шчасце. Нават калі ў хаце, дзе-небудзь пад вуглом ці пад падлогай, звілі сваё кубло восы, гаспадар не асмельваўся яго разбураць, бо на яго магло зваліцца нечаканае няшчасце.

Чамусьці старажытныя людзі вельмі часта параўноўвалі пчолак з начнымі зоркамі.

***Вось і ўсё, што даведаліся мы пра міфалагічнае мінулае самых звычайных пчолак, гуду-звону якіх у апошнія часы мы не надаём асаблівай увагі.***

*Паводле кнігі Аляксея НЕНАДАЎЦА «Святло таямнічага вогнішча»*

*Фота Ігара ГРЭЧКІ*

## Радыётэлеграф з-пад Узды

120 гадоў таму беларускі вучоны-прыродазнавец, прафесар Якуб Наркевіч-Ёдка ў сваім маёнтку на сённяшняй Уздзеншчыне стварыў метэаралагічную станцыю, распрацаваў спосабы вымярэння патэнцыялу атмасфернай электрычнасці, хуткасці руху воблакаў, барацьбы з градам, вынайшаў прылады для вымярэння вільготнасці глебы (лізіметр). 115 гадоў таму ён на пасяджэнні фізічнага аддзялення фізіка-хімічнага таварыства пры Пецярбургскім універсітэце дэманструе ўпершыню вынайдзены ім спосаб бязправаднай перадачы электрычных сігналаў (папярэднік радыётэлеграфа). Вядома, што такія перадачы на адлегласць 100 м вучоны выконваў у Мінску і Вільні.





*Гэтая трагічная з'ява коратка пазначана і ў энцыклапедыях. Яна была распраўай царскіх войск над сялянамі в. Кішчыцы Чавускага павета. Тады, 17 чэрвеня 1905 года, жыхары не пагадзіліся з тымі межамі, што праводзілі каморнікі паміж Чавускім і Горацкім паветамі, паміж памешчыцкімі і сялянскімі землямі. Войскі ўжылі зброю, забілі 8 сялян, цяжка паранілі 15.*

*Краязнаўца, паэт з Магілёва Віктар Арцем'еў даслаў сваё даследаванне тых даўніх падзей, калі нашы земляки адстойвалі сваю годнасць, права на зямлю і будучыню.*

# Кішчыцкі расстрэл 1905 года

***Мне па службовых справах і па закліку сумлення крязнаўцы давялося наведаць вёску Кішчыцы ў студзені 1953 года, у лютым 1955 і ў чэрвені 1963-га. Выпала ўбачыць усіх удзельнікаў сялянскага бунту, хто дажыў да таго часу. Гутарыў з імі, ад некаторых запісаў і захаваў успаміны, арганізаваў да 50-годдзя Кішчыцкага расстрэлу вечар памяці (6 лютага 1955 года).***

## Як тое было

Успаміны жыхара в. Кішчыцы Апанаса Кірылавіча Сафронава, 1886 г.н., запісаны 2 студзеня 1953 гоад і 30 чэрвеня 1963 года:

– Побач з зямлёю сялян вёскі Кішчыцы знаходзілася дача пана Гебеля і вялікі лясны масіў (сотні гектараў). Сам пан служыў пры двары цара ў Пецярбургу, меў званне палкоўніка. З нашых сялян яго мала хто ў вочы бачыў, затое мы моцна адчувалі цяжар ягонай улады. Яшчэ даўней яго бацька, таксама быў палкоўнікам пры двары цара, незаконна захапіў 50 дзесяцін сялянскага лугу, які яму вельмі ўжо спадабаўся, бо быў амаль побач з маёнткам. Доўгі час пан карыстаўся нашым лугам, як сваім. А сяляне, законныя гаспадары, не маглі і нагой ступіць.

Сяляне вельмі доўга шукалі праўду ў царскіх установах. Шмат разоў (кожны год запар) падавалі скаргі і прашэнні мясцовым уладам і ў суды. Спачатку ў губернскі суд, у Магілёў, а потым у яшчэ вышэйшы суд, у Кіеў. Але ў судах сядзелі такія ж самыя памешчыкі (у Магілёве цесць Гебеля кішчыцкі пан Эллер). Суддзі прызначалі: зямля, маўляў, па плане належыць сялянам, але перашкаджае даўнасць справы, шмат гадоў мінула. Калі аддаць луг вам, то шмат такіх людзей знойдзецца.

Ды сяляне не супакойваліся. Паслалі хадакоў з чалабітнай аж да самога Мікалая II. Ездзілі ў Пецярбург кішчане Парфён Кірылін (Кірылаў) і Марка Цыганкоў. Казалі, што ўдалося ім прама ў рукі прашэнне аддаць: калі праходзіў цар каля шарэнгі хадакоў, то яны сталі на калені, а тое прашэнне адзін з іх паклаў сабе на галаву. Цар даў адказ такі ж, як і ў судах.

Пасля гэтага кішчане ўжо больш не верылі, што цар не ведае пра тое, як сялян крыўдзяць. І рашылі самі дабівацца праўды – сілай адабраць у пана свой луг. Калі пачалася руска-японская вайна, выпусцілі на луг сваю жывёлу, вартаўнікоў адганялі, пану нічога не пакінулі. Паражэнне царызму ў японскай вайне і крывавы расстрэл рабочых 9 студзеня ў Пецярбургу яшчэ больш ускалыхнулі сялян. Летам 1905 года кішчане сходам пастанавілі, што луг падзеляць, а пана больш да яго не дапусцяць.

Гебель папрасіў дапамогі ў магілёўскага губернатара. Той ахвотна згадзіўся. У маёнтак Сасноўка (побач з Кішчыцамі праз рэчку Бася, у пачатку в. Ордаць) было прыслана паўроты салдат-татар (чалавек 70) і вялікая колькасць вартаўнікоў,ураднікаў, прыставаў і іншых на чале з віцэ-губернатарам.

Сяляне агітавалі салдат, каб яны не стралялі ў народ. Запрашалі ў свае хаты. Салдаты, калі даведаліся, чаму іх прыслалі, абяцалі кішчанам, што будуць страляць толькі ўверх.

Прыбыў і каморнік для ўстанаўлення дакладнай мяжы. Салдаты размясціліся ў ляску, паблізу ад лугу. А бліжэй – жандары, частка з іх на конях.

17 (30 па н.ст.) чэрвеня, у пятніцу, раніцой усе сяляне (мужчыны з жанчынамі, старымі і дзецьмі) прыйшлі на луг. У вёсцы засталіся толькі тыя, хто не мог хадзіць. На луг да рэчкі Басі ішлі ўсе дружна. Поп Пётр Карэлін усё ўгаворваў:

– Кіньце! Не ідзіце!

Але яго ніхто не паслухаўся. Поп застаўся ў вёсцы адзін. Стараста Улас Цыганкоў пайшоў з лугу ўжо, але мы, пяцёра маладых хлопцаў, дагналі, узялі за рукі і назад прыцягнулі.

Сяляне не мелі зброі, у іх нічога не было ў руках. Яны ішлі толькі для таго, каб не даць пану адабраць наш луг. Ці ж могуць страляць па мірных, бяззбройных людзях, якія патрабуюць свае правы і справядлівых да сябе адносін? Так думалі мы. Бо праўда на нашым баку, і трэба за яе пастаяць.

Калі каморнік Бееў запытаў, хто добра памятае межавы знак, то азваўся Сямён Смачноў (у публікацыях – Смашноў):

– Тут! На гэтым месцы мне 25 розгаў далі, каб помніў. У яму паклалі палёную цэглу і вугаль, а потым мяне на ямку паклалі і 25 розгаў далі, сказалі: «Гэта, каб помніў!»

Сталі капаць. Сапраўды, там і цагліна, вуголле ёсць.

– Праўду кажаш, – пацвердзіў каморнік, разглядаючы свае паперы.

Потым ён узяў ланцуг і пайшоў у напрамку да рэчкі Басі, па той мяжы, узнаўлення якой і дабіваліся сяляне. Уперад да яго забег упраўляючы маёнткам пана Гебеля Іван Быкаў. Стаў на калені:

– Антон Антонавіч, вы ўсё адбіраеце, пану на дачу прыехаць не будзе як, – сказаў ён.

І яшчэ нешта гаварыў. А што, не ведаю. А толькі каморнік раптам вярнуўся і пайшоў іншым шляхам, адразаючы сялянскі луг.

Народ стаў сцяной, не даў ісці. Падаспелі вартаўнікі. Яны пачалі біць мужчын, жанчын, дзяцей. Але гэта не дапамагло. Тады была дадзена каманда страляць у народ. Салдаты далі тры залпы, паверх галоў, парушаючы загад. А ўраднікі старанна ўгоднічалі начальству. Так, вуглоўскі ўраднік Марозаў забіў двух сялян. Усяго было забіта 12 і паранена каля 30 чалавек, з іх 12 вельмі цяжка. Стралялі нават па тых, хто пабег. Мяне параніла ў абедзве нагі, калі бег з лугу. Два месяцы ляжаў у бальніцы, а потым доўга яшчэ хадзіў на перавязку, лячыўся. Пасля судзілі, паўтара года адседзеў у турме.

Сказалі, што павятовы спраўнік у данясенні пісаў, што сяляне першымі напалі на жандараў, то гэта хлусня, няпраўда. Толькі тады, калі расстрэльваць сялян пачалі, былі чутны галасы нашых: «Каламі! Каменнем біце іх!»

Забітых і параненых было б яшчэ болей, з нас кашу маглі б зрабіць, бо паўроты салдат было ды ўраднікаў, як варання наляцела з двух паветаў, каб яшчэ салдаты стралялі ў людзей. Салдаты ведалі пра нашу праўду. Салдацкай куляй толькі мяне аднаго параніла. Ды яшчэ селянін адзін з Рудзіц у полі працаваў: салдацкай куляй калёсы прабіла. І ў іншых кулі ў бальніцы даставалі, то ўсё са зброі ўраднікаў. У Васіля Сафронава 9 куль ураднiцкiх дасталi дактары. Аж тры гады ён лячыўся. А калі вылечыўся, то ў турму пасадзілі. Тры гады сядзеў. Небяспечным яго палічылі, шкодным для ўлады, шахцёр ён быў. І іншых судзілі. Пабілі, а потым і судзілі яшчэ. Вось якая яна панская праўда!

Адразу ж пасля расстрэлу салдатам загадалі адвезці забітых і параненых, а з травы змыць вадой кроў, каб схаваць сляды свайго злачынства. Спалохаліся, што ў навакольных вёсках могуць успыхнуць сялянскія хваляванні. Фельчар Лабанаў, які працаваў у мястэчку Чэрнеўка (за некалькі кіламетраў ад месца расстрэлу), абураўся тым, што забілі і паранілі нявінных людзей. Калі гэта дайшло да вушэй начальства, то яго таксама палічылі вінаватым, але не знайшлі. Доўга яшчэ шукалі.

Пазней ужо нам стала вядома, што расстрэл сялян быў зроблены па камандзе губернатара.

Забітых хавалі на вясковых могілках. А помнік ставілі на лузе, ужо пры калгасе, савецкая ўлада зрабіла. І луг наш мы атрымалі толькі пры савецкай уладзе. Да вайны на памятнай дошцы былі пералічаны прозвішчы забітых сялян, а помнік пастаўлены дакладна там, дзе сяляне стаялі. Як помню, то на тым месцы, на якім упаў цяжка паранены і адразу памёр 17-гадовы Якаў Петрусёў.

На пытанні пра сям'ю Сафронаў адказаў так: жонку ў 1942 годзе расстралялі немцы, сын Пётр, калі даведаўся пра гэта, то добраахвотнікам на фронт пайшоў, загінуў у барацьбе з захопнікамі.

## «Стойце грудзьмі, не будзем страляць!..»

Успамін жыхара в. Кішчыцы Аляксея Аўрамавіча Дзянісава, 1884 г.н. Запісаны 6 лютага 1955 годзе:

– Мне тады было 20 гадоў. Нас трое кішчан працавалі ў в. Вуглы на лесапільным заводзе. У той дзень мы прыйшлі з Кішчыц на працу і адразу ж пайшлі да майстра завода і заявілі, што народ патрабуе нас на сход. Нас адпусцілі з працы.

Прыйшлі на луг. Народ ужо там быў. Стаялі натоўпам: усе разам. Ураднікі наўкола ездзілі на конях. Шмат іх было. Салдаты асобна стаялі.

Пётр, Захара Шклюдава сын, равеснік мой, побач стаяў. Ранілі яго ў жывот. Па дарозе памёр. А яго бацька быў забіты на месцы.

Не ўсе стралялі ў людзей, а то перабілі б усіх.

За дзень да расстрэлу сяляне да салдат хадзілі, гаварылі з імі. Салдаты сказалі:

– Стойце грудзьмі! Не будзем страляць!

## «...Нам хацелася паміраць?»

Успамін жыхара в. Кішчыцы Іллі Парфёнавіча Кірылава, 1891 г.н., запісаны на вечары ў Кішчыцкім клубе 6 лютага 1955 года:

– Становішча наша было вельмі цяжкае і крыўднае. Пан забраў нашу зямлю, а нам пакінуў крошкі. Мы мелі ўсе дакументы, але права не маглі знайсці. Рашылі браць грудзьмі. Пачалі травіць луг жывёлай, каб не дастаўся пану. Царскія ўлады абяцалі прыслаць для разбора камісію, а прыслалі салдат, вартаўнікоў ды ўраднікаў, прыехаў і землямер. На лузе сабраліся ўсе сяляне Кішчыц, каб абараніць сваю зямлю. Царскае начальства распарадзілася разагнаць сялян. Салдаты білі прыкладамі. Не змаглі нічога зрабіць і ўраднікі. Афіцэр даў каманду страляць у людзей. На лузе засталося ляжаць 7 чалавек забітымі, а хутка яшчэ 5 сялян памерлі ад ран. Многа было параненых. Гэта было вельмі і вельмі цяжка перанесці. Вы што думаеце, што нам хацелася паміраць? Не! Мы жыць хацелі. А нас пабілі, а потым судзілі. У турмах сядзелі. А зямля за панам засталася. Толькі савецкая ўлада вярнула наш луг і ўсю панскую зямлю.

## «Наш луг ды і ўсё тут!..»

Успамін жыхара в. Кішчыцы Макара Пятровіча Старасціна, запісаны 6 лютага 1955 года:

– Зямлі ў кішчан было 199 надзелаў, а ў надзеле 4,5 дзесяціны (на 80 двароў). Пан Гебель валодаў маёнткам Сасноўка ў Ордаці, а кішчыцкі пан Эллер у нашай вёсцы маёнтак меў – Пакроўскае. Эллер аддаў сваю дачку за сына Гебеля і ў пасаг аддаў частку лугу сялянскага (урочышча Свідэршчына). Сяляне судзіліся многа гадоў, але нічога не дамагліся. Пачалі травіць луг: ноччу загонім коней, кароў і пяём песні – наш луг ды і ўсё тут.

Калі расстрэл быў, то я служыў у арміі. Аднаго разу салдаты спыталі мяне пра расстрэл. У газеце было надрукавана, што ў Чавускім павеце ва ўрочышчы Свідэршчына забіта 12 чалавек і цяжка паранены 12. Патлумачана было, што расстралялі сялян за тое, што выступілі супраць улады.

Пазней атрымаў з дому ліст і даведаўся, што забітых пахавалі на кладзішчы ва ўрочышчы Сасоннік. Даведаўся, што Домна Хлімонава (Кароткіна) засталася без нагі, як і Васіль Купрэеў (Сафронаў).

***Успаміны кішчан – гэта таксама дакументы, можа, толькі больш важкія, чым пратакол паліцэйскага спраўніка. Успаміны гэтыя і ёсць сялянская праўда. А яны ляжалі ў маім архіве больш за паўстагоддзе. Ніхто не браў да друку. Толькі ўспамін А.К. Сафронава ўбачыў свет у «Магілёўскіх ведамасцях» ад 3 жніўня 2002 года.***

***Віктар АРЦЕМ'ЕЎ,***
***краязнаўца, г. Магілёў***



*Рэвалюцыйная маніфестацыя ў Маладзечне (сакавік 1917 г.)*

## Соф'я, дачка Вітаўта

635 гадоў таму нарадзілася адна са слаўных жанчын ВКЛ, якая незаслужана паўзабытая, – дачка тагачаснага гарадзенскага князя, а пазней пажыццёвага вялікага князя ВКЛ Вітаўта Соф'я (1371–1453). Яна вызначылася не толькі тым, што ў цяжкія хвіліны для вялікага маскоўскага князя Васіля I стала яго жонкай, а пасля суправіцельніцай сына вялікага князя маскоўскага Васіля II, прародзічкай славутага Дзмітрыя Данскога. Нават не толькі тым, што, скажам, у 1451 г. у час асады Масквы татарскім ханам Мазоўшам асабістай смеласцю і мужнасцю натхніла абаронцаў на перамогу. Карыстаючыся высокім аўтарытэтам бацькі, маючы свой магутны ўплыў на знешнюю палітыку Маскоўскага княства, яна зрабіла ўсё магчымае, каб ВКЛ і Польшча сабралі вялікую сілу і, не асцерагаючыся нападу з Усходу, рушылі на тэўтонцаў і перамаглі іх у Грунвальдскай бітве 1410 года. Больш – яна спрычынілася і да таго, каб маскоўскія раці пасля гэтага не накіраваліся на пераможнае, але аслабелае ВКЛ. Зрэшты, у той час Маскоўская Русь была вельмі ўдзячная ВКЛ, якое выдзеліла ёй некалькі сваіх палкоў для бітвы з татара-манголамі ў 1380 г. на Куліковым полі.







Рэшткі храма ў в. Старая Жосна Мядзельскага раёна

*Добры дзень, «Краязнаўчая газета»!*

*Мяне завуць Ганна Лукашэвіч, вучуся ў 9 класе Глыбоцкай раённай гімназіі, наведваю музычную школу, з'яўляюся сябрам паэтычна-журналісцкага гуртка «Жамчужынкі». Там пішу вершы, невялікія артыкулы ў нашу раённую газету – гэта і ёсць маё хобі.*

*Зараз я прапаную табе свой верш. Спадзяюся, што ён спадабаецца. Яшчэ хачу павіншаваць цябе з надыходзячым Новым годам і пажадаць усяго самага найлепшага, асабліва добрых чытачоў. Поспехаў табе!*

*Ганна ЛУКАШЭВІЧ*

## Забытая святыня

*Нібыта сокал, дужы і крылаты,*
*Прыткнуўся на ўзбярэжжы стары храм.*
*Дае прытулак ён вятрам,*
*Слязой туманіць позірк вінаваты.*

*Званы ахрыплі, а пасля знямелі,*
*Не клічуць больш ваколіцу на свята.*
*Людскія душы грэшныя за кратамі*
*Без слоў малітвы ссохлі, апусцелі.*

*У неба цягнуцца маўклівыя крыжы,*
*Жывы чакаюць сонечны прамень...*
*Хай храм адчыніць дзверы ў новы дзень,*
*Святое ў сэрцы кожным зберажэ!*

# Жывёлы ў фальклоры

Беларусы да сённяшняга дня захавалі свой надзвычай багаты фальклор. Казкі, прыказкі, прымаўкі, загадкі, песні, народная музыка, скокі (танцы), вопратка, ручнікі, абрусы, паясы – далёка не поўны пералік.

Гэтыя нацыянальныя скарбы не загінулі перш за ўсё таму, што на працягу соцень гадоў існавання нашага народа вусныя паэтычныя творы, побытавыя рэчы і мастацкія вырабы былі штодзённай патрэбай, неабходнасцю, сталі неад'емнай часткай асобы беларуса. Гэтыя творы і рэчы выкарыстоўваліся ў шматлікіх абрадах, што выконваліся падчас гаспадарчай працы, значных падзей у жыцці чалавека.

У песнях, загадках прысутнічае багата вобразаў прадстаўнікоў жывёльнага і расліннага свету. На тканых ці разьбяных вырабах, на будынках, на прасніцах часта сустракаюцца выявы кветак, жывёл і птушак. Многія з іх трапілі ў творы беларускага фальклору. Першынство, відаць, трэба аддаць казе.

Беларускія шчадроўнікі «водзяць казу». Чаму менавіта каза трапіла ў гэты абрад? Відаць, не выпадкова. Як кажа беларуская прымаўка, «дарма і каза не скача».

Паводле адной афрыканскай легенды, менавіта казе даручыў Бог перадаць людзям звестку пра тое, што яны пасля смерці трапяць да яго на неба – вестку пра бяссмерце. Выявы гэтай жывёліны знойдзены ў наскальных малюнках у гарах Арменіі. У Старажытнай Грэцыі, пачынаючы з II тысячагоддзя да н.э., сярод простага люду быў шырока распаўсюджаны культ Дыяніса – бога расліннасці. Яго ўяўлялі пераважна ў выглядзе казла. Пад нагою ці капытом яго мог «пырснуць» фантан віна ці малака... Падобныя ўласцівасці мае і каза, якую водзяць беларускія шчадроўнікі:

*Дзе каза ходзіць,*
*там жыта родзіць,*
*Дзе каза хвастом,*
*там жыта кустом,*



*Дзэ каза нагой,*
*там жыта капой...*

Хто ж быў такім магутным, каб рабіць гэткія дзівы? Пэўна ж, не сама каза. Яна была толькі атрыбутам, вестуном самага старажытнага і магутнага славянскага бога – Рода. Яго лічылі апекуном расліннасці і земляробства.

**Ірына ХАРЫТОНІК,**
**настаўніца беларускай мовы і літаратуры, пенсіянерка,**
**г.п. Воранава**

## Пераднавагодняе запытанне

**Ігар ГАТАЛЬСКІ,**
**краязнаўца, экскурсавод, Мінск:**

*1. 2006-ы парадаваў кансалідацыяй беларускіх краязнаўцаў, публікацыяй у шаноўнай «Краязнаўчай газеце» цікавых матэрыялаў па гісторыі і культуры, краязнаўстве Беларусі, актуалізацыяй пытанняў ужытку беларускай мовы і іншых тэм, што нібыта не «рэкамендаваныя» для афіцыйных СМІ. Вельмі засмуціла канчатковая адмова пэўных дзяржаўных органаў ад рэгістрацыі Краязнаўчага таварыства.*

*2. Зноў жа, не пакідаючы ў полі зроку «КГ», хацелася б, каб яшчэ больш пашыралася кола як краязнаўцаў увогуле, так і яе аўтараў, падпісчыкаў. Раю зрабіць серыю тэматычных выпускаў «КГ», прысвечаных пэўным рэгіёнам Беларусі (напрыклад, па асобных абласцях). А што датычыць сябе, то дужа хацелася б выдаць разгорнутую брашуру па шматлікіх экскурсіях па Мінскім раёне, урыўкі з якой друкаваліся ў «КГ» і на якія я чуў станоўчыя водгукі.*

**Святлана ПРАКОФ'ЕВА,**
**краязнаўца, Слонім:**

*1. Сёлета мне было лепш, чым летась. У сэнсе пошукаў і творчасці, цікавых сустрэч з рознымі людзьмі. Два чалавекі, лічу, сталі маімі сябрамі, што, згадзіцеся, не мала...*

*2. Хочацца прадоўжыць падарожжы, усебаковае спазнанне нашай Беларусі, а таксама ёсць вялікае жаданне больш і лепш напісаць пра тое, што пабачыла, адчула, асэнсавала, што можа быць пазнавальным не толькі мне адной.*

**Ларыса МЕЛЬЧАНКА,**
**бібліятэкар, Гомель:**

*Па тэлефоне: «Ой, чаму вы менавіта звярнуліся да мяне? Я чытаю «КГ» пастаянна, выкарыстоўваю многія яе матэрыялы для розных стэндаў, літаратурна-мастацкіх вечароў, віктарын, але ж я – не журналіст і не пісьменнік, усяго чытач». – «Нам, паважаная Ларыса Георгіеўна, цікавая думка кожнага нашага чытача, тым больш бібліятэкара – найпершага сябра і дарадцы». – «Праўда, мы сябруем. Яшчэ да з'яўлення «КГ» яе заснавальнік, Беларускі фонд культуры, хораша падтрымліваў нас. А цяпер, бадай, кожны тыдзень, па выхадзе газеты, мы бачым, чуем то голас з нейкай бібліятэкі, то слова пра адну з нашых устаноў. Дзякуй шчыры. Мне, бібліятэкару, толькі хочацца, каб, як у вас падпісчыкаў, так у нас было больш чытачоў. Асабліва моладзі, частка якой, захапіўшыся інтэрнетам, часамі ігнаруе кнігі. Ці лепш сказаць, недаацэньвае іх. Напрыклад, беларускую літаратуру – залатую скарбонку духоўнасці нашага народа». – «І вам дзякуй. Калі можна, пару слоў пра асабістае жыццё» – «Чаму не, можна. У мяне, дзякуй Богу, муж, дзеці здаровыя. Толькі хацелася б, каб я з мужам мела большую зарплату, каб мы маглі і як след гадаваць дачок, і самі сабе не адмаўлялі ў многім». – «Шчыра зычым гэтага!»*




**(Працяг. Пачатак у № 44–48 за 2006 г.)**

**Сюжэт пяты.**

## Мікалай Іванавіч Тургенеў (1789–1871)

А вось у тым, што гэтага не адбылося, бадай, можа, ёсць і адзін са шляхоў яе паратунку: некаторыя палякі і многія польскамоўныя, асабліва ўраджэнцы беларускіх зямель, пастаянна напаміналі, што ёсць «беларускае пытанне», намагаліся злучыць яго з польскім. Каб быць справядлівым, многія рускія і рускамоўныя перадавыя інтэлігенты (гісторыкі, этнографы, фальклярысты, пісьменнікі і інш.) на працягу ўсяго XIX стагоддзя шчыра спачувалі беларускаму народу, намагаліся аслабіць абвальны націск русіфікацыі.

«Карамзін, – запэўнівае М. Тургенеў, – не абмяжоўваўся гэтымі гутаркамі: ён падаў імператару дакладную запіску... Карамзін гаварыў імператару, што ён не мае ніякага права распараджацца абласцямі, набытымі не ім, а іншым гаспадаром... Лічачы, што ён абараняе толькі інтарэсы Расіі, Карамзін па сутнасці справы выступаў... у абарону імператарскай улады...» І з імперскіх пазіцый спакусіў, пераканаў Аляксандра I; той здаўся; урэшце справа для Беларусі закончылася тым, што толькі быў утвораны са сваімі формай і сцягам ваенны корпус з жыхароў былога ВКЛ.

«Калі дзесьці ўсё заканчваецца песнямі, – з іроніяй ці горасна пасміхаўся М. Тургенеў, – то ў Расіі быццам усяму суджана закончвацца салдатамі». Неўзабаве ўлада Канстанціна Паўлавіча ў Царстве Польскім будзе яшчэ пабольшаная, і ў «гэты час усе зычлівыя намеры адносна Польшчы ўжо выпарыліся...»

«Идеолог дворянства и просвещенного абсолютизма» («Советский энциклопедический словарь». М., 1980), М. Карамзін са сваёй «дваранска-манархічнай» (вызначэнне БелСЭ) ідэяй даб'ецца таго, што Беларусь і Літва ў 1840 г. апынуцца ўсяго толькі ў ролі Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі, а беларуская і літоўская мовы будуць гвалтоўна забароненыя ажно да 1905 г... Пасля задушэння паўстання 1830–1831 гг. у Польшчы, на Беларусі і Літве будуць скасаваныя Канстытуцыя 1815 г. і польская форма дзяржаўнасці, будзе зачынены Віленскі універсітэт. На Беларусі пачнецца «разбор» шляхты – фактычна знішчэнне тут шляхецка-дваранскага саслоўя, паніжэнне яго ў «аднадворцы», і на некалі высокаразвітую Беларусь з яе дзяржаўнай мовай у ВКЛ папаўзе цемра неадукаванасці, непісьменнасці, страты гістарычнай памяці і самаўніжэння, нявер'я, пакоры...

### Пасляслоўе

Безумоўна, наконт канца XVIII і першай чвэрці XIX стагоддзяў у Расійскай імперыі пакінулі свае нататкі шматлікія «вялікія» і «малыя» людзі. Складальнік вышэйназваных «Русских мемуаров» (а яны выйшлі ўслед за мемуарамі XVIII стагоддзя), абраў, як казалася, з паўтара дзесятка аўтараў розных узростаў, службовых лесвіц, нацыянальнасцей. А ў сваім выбары кіраваўся прынцыпам: хто быў праціўнікам «дэспатыі» Паўла I (гэтае пытанне, паўтараю, я не закранаю, бо – гэта справа найперш рускіх гісторыкаў), хто ўдзельнічаў у вайне 1812 года і хто быў у стане дзекабрыстаў альбо блізкі да іх, а пасля пацярпеў за гэта. Альбо, наадварот, адрокшыся ад былых ідэй, прыстасаваўся, залізнічаў, узвысіўся за кошт здрады летуценным ідэалам маладосці.



*Афіцэры Гарадзенскага гусарскага палка (1809–1811 гг.)*

Некаторыя аддадзеныя шчыра дзекабрысцкай справе і пацярпелыя за яе аўтары непасрэдна не пакінулі сваіх думак пра беларускія справы (а магчыма, такія погляды у зборнік не ўвайшлі), але ўсё ж і без гэтага шмат што для сённяшняга беларускага чытача пазнавальнае. Насамрэч у пазнанні галгофаўскіх вязеньскіх шляхоў праціўнікаў царызму: гэтыя пакутныя шляхі яшчэ больш спазналі і нашы «філаматы» ды «філарэты», і нашы ўдзельнікі антыцарскіх паўстанняў у 1830–1831, 1863–1864 гг. Свой ГУЛАГ быў і ў царскай Расіі.

(Заканчэнне на стар. 8)



*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 7)*

Напрыклад, **С.В. Скалон** (1797–1887) – дачка вядомага тагачаснага паэта В. Капніста, патаемна (каб ніхто не бачыў і не чуў) запісала свае ўражанні пра сустрэчы з многімі дзекабрыстамі і з М. Гогалем, асноўную ўвагу ўдзяляючы на іхні прыстойны чалавечы воблік. **А.В. Паджыо** (1798–1873) – італьянец, ваенны, дзекабрыст, які ўсё свядомае жыццё правёў у Расіі, як сам піша, «изведав и тюрьму, и ссылку, и нищету». На следстве па справе дзекабрыстаў, каб выратаваць сваё жыццё, не вытрымаў, расказаў усё, што ведаў. Але і гэта не выратавала яго ад катаргі: слабых духам не толькі ламалі, але і, дабіўшыся прызнання ды пакаяння, адпрэчвалі як «отработанный материал». У ссылцы, у Іркуцкім краі, Паджыо знайшоў сілы займацца настаўніцтвам, вывучэннем мясцовай прыроды. Пакінуў Сібір толькі ў 1859-м.

Чытаючы «арыштанцкія» успаміны гэтай асобы, нельга не жахнуцца: ступень яго пакут паўторыцца для сумленных і праз стагоддзе. Узновяцца і тыя ж метады: нечаканы арышт ноччу, абвал «бесправия, беззакония и насилия, самоуправная власть назначает суд, произвольно назначает судей, аблекает их чудовищным правом жизни и смерти». Паджыо ўдакладняе: па наўмысным царскім загадзе вяршыцелем іхніх лёсаў быў чалавек, які сам «заглаживает грехи старого усердия грехами нового». Той на допытах трос кулаком і пырскаў слінай: «Мы заставим вас говорить, мы имеем средства заставит вас говорить!» Пасля гэтага – дзікія фізічныя катаванні. Іх многія не вытрымлівалі, «глотали пуговицы, ели стекло, бились головой об стену и, наконец, вешались...». А хто выцерплівае глумлівае следства, то не меншую глумлівасць зведваў на этапах, на катарзе... Вайскоўцы-дзекабрысты **І. Якушкін** (1793–1857) і **М. Цэбрыкаў** (1800–1862) удакладнілі некаторыя моманты свайго ўдзелу ў дзекабрысцкім паўстанні, арышту, турэмных пакут. Змешчаны фрагменты ўспамінаў і «человека малоприятного, отличавашегося угодничеством к властям, не брезгующего доносительством, даже предательством» – выхадца з Фінляндыі, прыжывалы пры багатых сем'ях, літаратара, які марна імкнуўся ў вышэйшую расійскую творчую эліту, – **Ф. Вігеля** (1786–1856). Дасведчаны ў многіх нюансах расійскай рэчаіснасці, у тым ліку і літаратуры, вядомы літаратар П. Вяземскі перасцерагаў, што гэтаму чалавеку не трэба давяраць: «в записках его много злости и много злопамятности», хоць «много и живости».

Зрэшты, і да самога сенатара, члена Дзяржаўнага савета, таварыша міністра асветы, начальніка цэнзурнага камітэта неаднойчы тут памянёнага ўжо П. Вяземскага (1792–1878) адносіны сучаснікаў былі розныя. «За отступничество от идеалов молодых лет». Адступніцтва і здрадніцтва – якія яны здаўна блізкія, як яны часта гнюсна паўтараюцца... Пад самымі рознымі агаворкамі...

*Генрых **ДАЛІДОВІЧ***



*Капітуляцыя Парыжа ў 1814 г. (з тагачаснай гравюры)*

***Дзякую Леаніду БАРОЎСКАМУ за падораную мне кнігу «Русские мемуары. Избранные страницы. 1800–1825 гг.», якая натхніла напісаць гэтыя мініяцюры.***

***P.S.** Як справядліва заўважылі чытачы, мая публікацыя, што заканчваецца ў гэтым нумары, не зусім выпадковая. Яна мае на ўвазе працяг размовы, што вядзецца ў газеце не першы год: расказ пра шляхі пісьменства, а гэтым самым і дакументальным засведчаннем гісторыі, культуры на Беларусі са старажытных часоў.*

***Коратка, у магчымых межах газетнай плошчы, мы па-свойму, з краязнаўчых пазіцый, расказалі, як была адлюстравана наша даўніна ў «Аповесці мінулых гадоў», пачатак XII ст., Кіеў), а пазней – у Галіцка-Валынскім летапісе, дзе самыя непасрэдныя звесткі пра ўтварэнне ВКЛ прыкладна ў 1246 г., у «Летапісе вялікіх князёў літоўскіх» – першым агульнадзяржаўным летапісным зводзе, які быў складзены ў ВКЛ прыкладна ў 1430–1446 гг., у «Хроніцы Быхаўца» – помніку беларускага летапісання 1-й паловы XVI ст., у «Баркулабаўскай хроніцы» (створана не пазней за 30-я гады XVII ст.), у пазнейшых «Віцебскім летапісе» (XVIII ст.) і «Магілёўскай хроніцы» (XVIII–XIX стст.), якіх вядомае ўжо аўтарства. Бегла пераказваючы змест гэтай дакументальнай, у апошніх творах набліжанай да публіцыстычна-мастацкай літаратуры, мы прыводзілі і асобныя яркія старонкі з яе.***

***Як вядома, эпоха аўтарызаванай творчасці пачалася з XVI ст. (мабыць, з прадмоў і пасляслоўяў Ф. Скарыны) і з паслядоўным пошукам новых форм (дыярыушы, дзённікі, а пазней і ўспаміны). Карыстаючыся, што ў 2006 г. спаўнялася 460 гадоў нашаму земляку, грамадскаму дзеячу і пісьменніку Ф. Еўлашоўскаму, мы завастрылі ўвагу чытача на ягоныя «Гістарычныя запіскі» (апублікаваныя толькі ў 1886 г.) – з самым раннім помнікам мемуарнага жанру беларускай літаратуры канца XVI – пачатку XVII ст. Тых чытачоў, хто жадае больш уведаць пра тых аўтараў (а іх было нямала да заняпаду беларускай літаратуры ў XVIII ст., калі пачала выцясняцца з афіцыйнага ўжытку беларуская мова), адрасуем да грунтоўных кніг вучонага і пісьменніка Адама Мальдзіса «Таямніцы старажытных сховішчаў» (Мн., 1974), «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя» (Мн., 1982; абедзьве ў «Мастацкай літаратуры»), «Як жылі нашы продкі ў XVIII стагоддзі» (Мн.: «Лімарыус», 2001).***

## Студзень

**1 – Жыгімонт I Стары** (1467–1548), вялікі князь ВКЛ і кароль польскі – 540 гадоў з дня нараджэння.

**1 – «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»**, выдавецтва (Мінск, 1967) – 40 гадоў з часу заснавання.

**7 – Друкер Соф'я Юр'еўна** (1907, г.п. Копысь – 1984), артыстка оперы, народная артыстка Беларусі – 100 гадоў з дня нараджэння.

**10 – Магіла Пётр Сімяонавіч** (1597–1647), праваслаўны царкоўны і культурны дзеяч Рэчы Паспалітай – 410 гадоў з дня нараджэння.

**17 – Станіслаў Аўгуст Панятоўскі** (1732, Камян. р-н – 1798), апошні вялікі князь ВКЛ і апошні кароль Рэчы Паспалітай, асветнік, мецэнат – 275 гадоў з дня нараджэння.

**17 – Гойшык Мікалай Васільевіч** (1927, Івац. р-н – 1944), удзельнік партызанскага руху на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну – 80 гадоў з дня нараджэння.



*Такой паштоўкай у 1990-х гадах віншавалі з Калядамі беларусы Аўстраліі*

## Калекцыянерам, і не толькі




### Елкі белая і сіняя

З Новым годам віншуе беларуская пошта. Нядаўна выйшлі дзве маркі, прысвечаныя гэтаму святу. На мініяцюрах **№ 673** і **674** накладам па 36 тысячаў асобнікаў адлюстраваныя елкі белага і сіняга колеру. Мастак – Іван Лукін, памер – 26x37 мм, маркі надрукаваныя ў малых аркушах (110x101 мм) па 6 штук. На марках прымененыя элементы абароны.

У дзень выхаду ў абарачэнне на Мінскім паштамце праводзілася спецгашэнне на канверце «Першы дзень».

Праўда, у адрозненне ад аналагічных выпускаў мінулых гадоў, не з'явілася марка, прысвечаная Нараджэнню Хрыстову...




### Пяты стандартны

У працяг серыі стандартных выпускаў марак выйшла мініяцюра **№ 672**. На ёй – выява Шклоўскай ратушы. Намалявала яе Алена Фадзеева, памер – 18x26 мм, наклад – 252 тысячы асобнікаў.

***Вялікі дзякуй за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялаў рубрыкі супрацоўнікам выдавецкага цэнтра «Марка» РУП «Белпошта»***

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**«ВЫШЭЙШЫЯ РАСЛІНЫ»** – тэрмін, што адносіцца да тыпу адпаведнага расліннага свету. Іх, паводле дадзеных напрыканцы XX ст., больш за 2 000 відаў. Гэта – шматлікія склады мохападобных, дзярэзаў, хвашчоў, папарацей, голанасенных раслін і пакрытанасенных раслін. Паводле вызначэння біёлагаў і батанікаў, для вышэйшых раслін характэрны падзел на лісце, сцябло, корань (апроч мохападобных). Гэтыя расліны прыстасаваліся выжываць у наземным асяроддзі. Ёсць шматлікія формы (напрыклад, расліны сямейства гарлачыкавых), што аблюбавалі водную прастору. Продкі водных раслін вядомы з даўніх часоў

**«ВЯЗАНКА»** – беларускі народны танец, дзе выкарыстоўваюцца розныя матывы полек і разнастайныя прыпевы («Полька з падскокам», «Полька дробная», «Вуж», «Мяцеліца» і інш.). Танец увайшоў у рэпертуар танцавальных калектываў Беларусі.

**ВЯЗАННЕ** – спосаб стварэння вырабаў з суцэльных нітак выгінаннем іх у пятлі, што пераплятаюцца паміж сабой уздоўж і ўпоперак, адзін з відаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Для вязання выкарыстоўваюцца ніткі шарсцяныя, баваўняныя, з хімічных валокнаў, мяшаныя. Ёсць вязанне ручное і машыннае.

Ручное вязанне шырока выкарыстоўвалася ў побытавым сельскім і гарадскім асяроддзі, выконвалася драўлянымі, металічнымі, касцянымі, а пазней пластмасавымі пруткамі ці кручкамі. У Беларусі шырока выславіўся такі від вязання, як карункі (сурвэткі, рукавіцы, шкарпэткі, панчохі, абрусы, накідкі на ложкі і інш.) Пазней, з пачатку XX ст., пашырыліся і іншыя віды вязання.

**ВЯЗЫНКА** – гарадзішча (II–V стст. н.э.) культуры штрыхавай керамікі за 0,1–0,2 км на невысокім узгорку на левым беразе р. Вязынкі. Тамтэйшая назва – Замэчак. Пляцоўка авальная, памерам 62x51 м. Як лічаць даследчыкі, Вязынка была калісьці абаронена драўлянай сцяной, неаднойчы гарэла, аднаўлялася і, мажліва, мела самыя розныя формы аднаўлення. Захаваліся розныя агнішчы, канструкцыі жыцця, гаспадарчыя пабудовы.

**ВЯЗЬ** раслінная ў мастацтве – раслінны арнамент у форме спіральна ці плаўна выгнутай галінкі з лісцем, часамі з кветкамі. Ужываецца ў мастацтве розных краін і эпох. У спалучэнні з іншымі дэкаратыўнымі матывамі выкарыстоўваецца ў фрызавых кампазіцыях у архітэктуры, а таксама ў скульптуры, графіцы, дэкаратыўна-прыкладным мастацтве (разьба па дрэве, залачэнне, ткацтва, коўка, чаканка, гравіроўка па шкле і метале). У Беларусі ёсць яркія ўзоры вязі ў многіх храмавых пабудовах, на вырабах ўрэцка-налібоцкага шкла і інш.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасны – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26, 234 61 62. E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 04.01.2007.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Плутас-Маркет»: г. Мінск, вул. Кульман, 1. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0131676 ад 30 красавіка 2004 г.)
Заказ 8
Тыраж 1450 асобнікаў.